8 верасня 2017 | № 33 (547)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







Глабальная Вейшнорыя
стар. 9



# У палоне гісторый імперскіх

## Без шанавання сваёй гісторыі не будзе патрыятызму



Сяргей ПУЛЬША

Які будзе адказ, калі запытацца: «Што такое патрыятызм?» Напэўна, гонар за сваю радзіму, за сваю нацыю, свой народ. Гэты гонар складаецца з ведання і асэнсавання сваіх дасягненняў і перамог. Нездарма ўсе «нованароджаныя» нацыі і дзяржавы шукаюць сваю гераічную мінуўшчыну.

Усе — але толькі не беларусы. Мы чамусьці не схільныя ганарыцца тым, чым можна і варта было б ганарыцца.

Не дзіва, бо мы дагэтуль знаходзімся ў рэчышчы чужой гістарыяграфіі. Падыход да гісторыі, калі беларуская нацыянальная дзяржава ўзнікла толькі са з'яўленнем БССР, альбо нават БНР, ставарае пастку для нашага патрыятызму і нашай ідэнтычнасці. Таму вырачаныя на правал усе спробы прыдумаць нейкую асаблівую «нацыянальную ідэалогію». Яе папросту немажліва вынайсці: савецкая сістэма была скіраваная не на вывучэнне адметнасцяў народаў, якія ўваходзілі ў СССР, а на тое, каб ператварыць гэтыя народы ў іншую нацыю — «савецкі народ». А «ў савецкіх — уласны гонар». І ён савецкі, а не беларускі, казахскі, татарскі ці літоўскі.

А дзе ж беларуская гісторыя?

Возьмем нядаўняе свята — 8 верасня. У гэты дзень у далёкім 1514 годзе войскі Вялікага Княства Літоўскага знана наваляслі маскавітам. 30-тысячнае войска ВКЛ разбіла 80 тысяч жаўнераў войска рускага. Праўда, на нашым баку была цяжкая артылерыя, а рускія сваімі гарматамі так і не скарысталіся.

Манеўр галоўнакамандуючага Канстанціна Астрожскага, калі ён фальшывым адступленнем выцягнуў сілы праціўніка пад гарматны агонь, выкладаецца ў вайсковых вучэльнях у якасці асноваў тактыкі і стратэгіі. Між тым, ці кажуць пра гэтую бітву ў школе?

Так, дзень 8 верасня з'яўляецца Днём беларускай вайсковай славы. Але — нефармальна. Хаця, па ідэі, павінен бы на справе адзначацца як той самы «Дзень беларускай арміі, авіяцыі і флоту». Той, што мы па завядзёнцы адзначаем 23 лютага, і да чаго Беларусь проста не мае дачынення. Бо ў 1918 годзе, калі войскі Чырвонай арміі далі свой першы бой (які, дарэчы, прайгралі), па нашай тэрыторыі праходзіла лінія фронту Першай сусветнай ввайны. Што для нас тады 23 лютага? Нічога. Нуль.

Дык чаму б ні адзначаць Дзень арміі 8 верасня? Ну, калі не ўсёй арміі, дык Дзень артылерыі ўжо дакладна? Таму што, зноў-такі, не ўпісваецца гэты дзень у рэчышча гістарыяграфіі савецкай. Па-першае, ваявалі з рускімі, чаго не магло быць паміж «братнімі народамі». Па-другое, перамаглі «спрадвечнага саюзніка». І ўвогуле, гэта разборкі князёў, а не народаў, дый было тое даўно і няпраўда…

Так, ваявалі, і так, перамаглі… А тое, што гэта была не «народная вайна», наўпрост абвяргаецца колькасцю войскаў, якія ў баталіі ўдзельнічалі. 110 тысяч чалавек з абодвух бакоў — гэта, па тых часах, вельмі шмат. У бітве пад Палтавай праз два стагоддзі, якой рускія так ганарацца, удзельнічала прыкладна тая ж сіла: да 80 тысяч войска з рускага боку і 40 тысяч шведаў. Руская армія пераўзыходзіла праціўніка ўдвая,



> **Мы не здолеем збудаваць патрыятычнае выхаванне і беларускую ідэалогію, пакуль не пачнём ганарыцца нашай гісторыяй**

і тым не менш, Палтаўская бітва — падзея, гонар нацыі (зразумела, расійскай). А Аршанская бітва — «прахадны эпізод»?

Наша гісторыя знаходзілася (дый дагэтуль знаходзіцца) у палоне гісторый імперскіх — спачатку Расійскай імперыі, потым СССР. Чаму, напрыклад, мы ў школе вучылі пра Аляксандра Неўскага, які «в субботу, пятого апреля» 1242 года разбіў Тэўтонскі ордэн на Чудскім возеры, а пра Грунвальд у 1410-м — ні гу-гу? Між тым, менавіта Грунвальдская бітва паклала канец панаванню тэўтонаў, з якімі вышэйзгаданы Неўскі змагаўся, ды так і недазмагаўся…

Ды папросту таму, што нявыгадна чужой краіне згадваць пра дасягненні і перамогі паняволенага (Расійскай імперыяй) і падпарадкаванага (СССР) народа. Бо, глядзіш, сапраўды ўзгадаюць гонар, годнасць і гістарычную праўду. І наваляюць агрэсару.

А гістарычная праўда такая, што раззлаваныя беларусы могуць перамагчы каго заўгодна — не істотна, з Захаду ці з Усходу. І праўда ў тым, што ніякай спрадвечнай «памяркоўнасці» ў беларусаў не было. «Памяркоўнасць» і цярплівасць — гэта таксама прыдуманы міф, каб суцішыць нашу буйную натуру.

Любы народ ганарыўся б такой мінуўшчынай. А ў нас са школьнай праграмы прыбіраюць «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага. Знікае яшчэ адзін гераічны эпізод, што ўвогуле трэба расцэньваць як ідэалагічную дыверсію і падкоп пад адзін з падмуркаў беларускай дзяржаўнасці.

Мы не здолеем збудаваць патрыятычнае выхаванне і беларускую ідэалогію, пакуль не пачнём сапраўды ганарыцца нашай гісторыяй. А ганарыцца гісторыяй мы не зможам, пакуль будзем заставацца ў парадыгме чужой гістарыяграфіі і чужога погляду на нашу мінуўшчыну. Нам патрэбны свой гонар і свая гісторыя — каб не ператварыцца ў «беларускі Данбас».

**Працяг тэмы на стар. 10 »**

# ТОП-5 феноменаў «Маладога фронту»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Кажуць, што арганізацыя жыве не больш за 7 гадоў. Пасля яна альбо знікае, альбо дэградуе, альбо застаецца адно назва, пад якой хаваецца ўжо нешта зусім іншае.**

Сёлета «Маладому фронту» спаўняецца 20 гадоў, за ўвесь гэты перыяд ён ніколі не знікаў надоўга са стужак навінаў. Пры гэтым часам цяжка разабрацца, чым МФ быў 20 альбо 10 гадоў таму і што ўяўляе з сябе сёння...

Вялікая колькасць нашых рухаў, партыяў ды арганізацыяў стваралiся па прынцыпе франшызы. Маўляў, ёсць нешта падобнае ў суседзяў, давайце і мы створым! Так было з БНФ, створаным на манер народных франтоў, што ўзнікалі як грыбы ў познесавецкія часы. Таксама было і з «Зубрам», які капіяваў сербскі «Отпор» ды грузінскую «Кмару», пасля па той жа схеме дзейнічала і ўкраінская «Пора». Дзе ж тут месца «Маладому фронту»?

Магчыма, таямніца жывучасці МФ акурат і палягае ва ўнікальнасці — яго няма з чым параўнаць. Гэта і не выключна палітыка, і не скаўтынг, не радыкалізм і не згодніцтва, не жалезная дысцыпліна і не панк-тусоўка. Адмаўляючы ўсё гэта ў чыстым выглядзе, МФ сабраў у сабе ўсе гэтыя рысы, пераварыўшы іх, нібы ў алхімічнай колбе. Што ж гэта — «Малады фронт»?

МФ — гэта ідэя. Ідэя «беларускай Беларусі» з сапраўднай сімволікай, са сваёй мовай, якая ёсць часткай еўрапейскай цывілізацыі, а не калоніяй Масквы, заўжды была першаснай. Кожныя чарговыя выбары дадавалі свайго каларыту, змяняліся лозунгі і твары на цішотках, але ніколі МФ цалкам не перабудоўваўся пад нейкага кандыдата ці кааліцыю — наадварот, кандыдат ці кааліцыя маглі ўпісацца ў карціну «новай Беларусі», якую бачылі маладзёны альбо... не ўпісацца і быць адрынутым.

МФ — гэта маладосць. А маладосць — гэта не толькі энергія, самаахвярнасць і каханне. Гэта яшчэ і памылкі, якія арганізацыя рабіла неаднойчы, то пераацаніўшы свае сілы, то недастаткова пісьменна сфармуляваўшы свой пасыл, то сляпа ідучы пад дубінкі і рэпрэсіі, не задумваючыся пра наступствы. А яшчэ — гэта маштаб: калі ўлёткі, то па ўсім горадзе, калі сцягі, то на самым бачным месцы, калі подпісы, то не менш як тысяча на аднаго збіральніка. Таксама гэта гарэнне, шмат хто выгараў і адышоў, пакінуўшы па сабе прыгожую яскравую ўспышку.

МФ — гэта рызыка. Калі палітыкі ці журналісты кажуць, што ў «Маладым фронце» мала людзей, нават у параўнанні з сярэдзінай 2000-х, гучыць гэта не дастаткова пераканаўча. Нават зараз, калі вакол Дашкевіча гуртуецца з дзясятак байцоў, — гэта больш, чым у любой партыі альбо палітычнай арганізацыі. Чаму? Бо МФ — гэта не паездкі ў Будапешт ці Вільню на малазразумелыя семінары, а штодзённая рызыка. Гэта разуменне, што твой дом — не твая крэпасць, што сваё жыццё можаш планаваць далёка не на гады наперад, што пах турмы ты ўсё ж такі адчуеш, і наўпрост не ведаеш, калі. Такога дзясятка хлопцаў ды дзяўчат даўно ні ў каго і няма, а ёсць — у «Маладым фронце».

МФ — гэта людзі. Багаццем «Маладога фронту» заўсёды былі не прапісаныя па пунктах праграмы зменаў альбо калекцыя рукапісканняў з замежнымі міністрамі. Багацце — гэта чалавечы матэрыял, актыўныя, апантаныя, часам, не вельмі ўраўнаважаныя маладзёны, якія пасля падраслі ды пайшлі ў партыі, грамадскія кампаніі, музыку, журналістыку, бізнес. Гэта акурат дазваляе казаць пра МФ як пра кузню кадраў нацыянальнага руху. Так, МФ не змяніў уладу, не вывеў на вуліцы тую запаветную крытычную масу людзей, але і не даў згаснуць беларускай справе, заліўшы туды новую кроў, якая і дае надзею на заўтрашні дзень.

МФ — гэта эвалюцыя. Сярод іншага, «Малады фронт» умее здзіўляць, прычым, як сваіх апанентаў на высокіх пасадах, так і, здавалася б, хаўруснікаў па «дэмакратычным руху» (калі гэты слоган яшчэ быў у трэндзе). Гэта і намётавы лагер у 2006-м, і беспрэцэдэнтныя кампаніі салідарнасці з палітвязнямі праз увесь час, і пратэст у Курапатах напачатку 2000-х і ў 2017-м... Заблытаць карты і сваіх, і чужых, зрабіць нечакана і па-іншаму — гэта акурат па-маладафронтаўску.

Нечым усё гэта нагадвае этапы сталення падлетка: пратэст, жорсткае адмаўленне, сваркі з бацькамі, вучоба, самастойнае жыццё, сям'я... Будучыню «Маладога фронту», той шлях, куды эвалюцыянуе арганізацыя, на маю думку, прадказаць немагчыма. Хаця б таму, што гэта не дзіцёнак з прабіркі ў выглядзе маладзевага прыдатку да партыі, а нешта цалкам самастойнае і жывое, з душой і сэрцам.

Нават калі МФ не захаваецца як арганізацыя ў звыклай для нас форме, ён усё адно будзе жыць у справах і людзях, якіх спарадзіў, якія будуць насіць чырвона-чорны крыж ужо не па плошчах, а ў сваёй штодзённасці, аднойчы перадаўшы яго сваім дзецям, якія некалі прачнуцца пад небам Сваёй Краіны.

# Як стаць шчаслівым за 6 рублёў

Вераніка БЯЛОВА

**Зачапіла! Улады ўпэўненыя, што для бязбеднага існавання беларусу дастаткова 6 рублёў на дзень — менавіта столькі закладзена ў бюджэт пражытковага мінімуму. Але гэта больш падобна на здзек. Аднак хіба самая сацыяльна арыентаваная дзяржава здольная на такое? Правяраем.**

Галеча падступае. І гэта адчуваецца літаральна ва ўсім. Людзі ўсур'ёз абмяркоўваюць у чэргах рэцэпты страў з костак, якія яшчэ нядаўна прызначаліся на пракорм жывёлам, і з жахам чакаюць будучых жыровак.

Нават майстры па рамонце абутку канстатуюць: людзі сталі купляць самы танны абутак, дый той зношваецца ў хлам, не маючы магчымасці нават паставіць набойкі. Яно і зразумела: замяніць набойкі ў тых жа Баранавічах каштуе 6 рублёў (у Мінску, дарэчы, 9) і, выбіраючы паміж рамонтам абутку і кілбасой, многія аддадуць перавагу другому.

Гэтыя 6 рублёў, якія адмераюць беларусам для нябеднага жыцця, выглядаюць проста нейкім удасканаленым цынізмам. Бо ў гэтую суму беларусы павінны ўпісаць не толькі ежу, але таксама абавязковыя плацяжы, узносы і «мінімальны набор матэрыяльных выгод і паслуг, неабходных для забеспячэння жыццядзейнасці чалавека і захавання яго здароўя» — менавіта так гучыць азначэнне паняцця «бюджэт пражытачнага мінімуму». Зрэшты, нават па дадзеных Белстата, больш за 550 тысяч чалавек не маюць і гэтых грошай.

А што ж астатнія, ці адчуваюць сябе шчаслівымі і багатымі? Улады ўпэўненыя, што і з 6 рублямі ў кішэні беларусы могуць існаваць нябедна. Калі ўпэўненыя — давайце праспрабуем. Глянем, як можа разысціся «нябедны» беларус на адмераны яму дзяржавай грошыкі.

Не будзем забіваць сабе галаву ўсякімі плацяжамі і ўнёскамі, а проста адзін дзень пражывем шчасліва ў сваё задавальненне.

Зазірнем у табліцу Белстата з цэнамі на тавары і паслугі і абярэм там сабе што-небудзь для душы. Напрыклад, каб падсаладзіць сваё і так салодкае жыццё на 5,4 руб. можна купіць кілаграм карамелек і смактаць іх цэлы дзень (на «Ірыскі» па 7,56 руб. ужо не хопіць, а вось калі абмежавацца пернікамі па 4,58 руб., дык застанецца яшчэ і на кефір па 1,2). Вядома, больш руплівыя аддалі б перавагу «кілбасе варанай першага гатунку» за 4,86 руб. з хлебам, але нешта не пахне ад гэтага набору нябедным існаваннем.

Тыя ж, хто лічыць, што «не ў пірагах шчасце», можа замест ежы парадаваць сябе шопінгам. Напрыклад, прыкупіць жаночыя майткі «з баваўнянага трыкатажнага палатна» па 5,11 руб. (на мужчынскія па 6,73 давядзецца ўжо адкладаць). Можна на гэтую суму набыць адну пару калготак (4,32) і пару дзіцячых шкарпэтак (1,51).

Для больш руплівых і дальнабачных ёсць таксама ваўняная пража за 5,62 руб. — хопіць звязаць сабе шалік, каб грэцца зімой, таму што на ацяпленне ўжо не застанецца. Нічога іншага на гэтую суму ў табліцы Белстата не выявілася, калі не лічыць канцтавараў, сродкаў гігіены, а таксама лямпачак, разетак, мыла і штодзённага часопіса (відавочна, таго, у якім можна прачытаць пра наша шчаслівае жыццё).

Ну, і вядома, куды ж без духоўнай ежы! Напрыклад, на гэтыя 6 рублёў можна схадзіць у кінатэатр або набыць сабе квіток у цырк на апошні шэраг. Хоць, дзякуючы ўладам і іх мудрым рашэнням, на цырку можна і зэканоміць.

**gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Аляксей Мілюкоў абвясціў галадоўку ў калоніі

**Як паведаміў Праваабарончаму цэнтру «Вясна» блогер з Бабруйску Алег Жалноў, яго сын Аляксей Мілюкоў (Жалноў), які знаходзіцца ў папраўчай калоніі ў Горках, абвясціў галадоўку.**

«Адваката на працягу некалькі дзён не пускалі да Аляксея, а калі нарэшце выдалі пропуск, супрацоўнікі калоніі сказалі, што сын адмовіўся сустракацца з ім. Аднак адвакат запатрабаваў, каб Аляксей асабіста сказаў яму пра гэта. Сустрэча ўсё ж адбылася, і сын распавёў, што ў калоніі яго правакуюць на агрэсію і прымяненне фізічнай сілы, некалькі разоў спрабавалі змясціць у камеру са зняволенымі з нізкім сацыяльным статусам, але ён адмовіўся. У знак пратэсту супраць такіх дзеянняў адміністрацыі калоніі ён быў вымушаны аб'явіць галадоўку», — распавёў Алег Жалноў.

Акрамя гэтага, са словаў бацькі, Аляксея Мілюкова неаднаразова змяшчалі ў ШІЗА, пазбавілі перадач і спатканняў з роднымі, перавялі ў памяшканне камернага тыпу. Агулам на асуджанага накладзена 16 спагнанняў, у тым ліку за тое, што ён не мае кашулі і галаўнога ўбору, якія яму былі абавязаны выдаць у калоніі, але так і не выдалі.

Алег Жалноў упэўнены, што сын нічога не парушае, і звязвае ціск на Аляксея з боку адміністрацыі калоніі са сваёй актыўнай палітычнай дзейнасцю. Ён не выключае, што тэрмін сына могуць павялічыць праз выкарыстанне артыкула 411 Крымінальнага кодэкса, улічваючы, што на Аляксея накладзена дастаткова спагнанняў за парушэнне ўмоў утрымання ў калоніі.

Нагадаем, у ліпені 2014 года Аляксей Мілюкоў быў асуджаны на тры гады «хіміі» і атрымаў штраф — 50 мільёнаў рублёў. Суд прызнаў яго вінаватым у нанясенні маральнай і фізічнай шкоды супрацоўніку ДАІ. У верасні 2016 года ён быў асуджаны нібыта за ўхіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі і змешчаны ў Горацкую калонію.

**Паводле spring96.org**

# Замест паліклінікі пабудуюць Палац шлюбаў

**У інвестыцыйнай праграме Віцебску на 2017 год першым пунктам запланаванае будаўніцтва Палацу шлюбаў. Але ці гэта аб'ект першай неабходнасці для жыхароў гораду?**

Нашмат больш актуальнае пытанне лячэбных комплексаў. Чыноўнікі штогод абяцаюць, але абяцанні часта пераштвараюцца ў даўгабуды. Так, будаўніцтва паліклінікі, жаночай кансультацыі і стаматалагічнага аддзялення больш як для тысячы наведнікаў мікраяраёну «Поўдзень–7А» было распачатае ў 2010 годзе, але не скончанае і да сёння. І гэта не адзіны выпадак. Шэраг лячэбна-аздараўленчых аб'ектаў горада надалей чакае завяршэння будаўніцтва.

Сапраўды, у адным з самых праблемных мікраяраёнаў гораду Білева на 10 тысяч дзяцей — толькі адна школа, два дзіцячыя садкі і ніводнай паліклінікі. Каб выправіць сітуацыю, актывісты Беларускай хрысціянскай дэмакратыі сабралі больш за 10 тысяч подпісаў жыхароў гораду і адправілі іх у Міністэрства аховы здароўя, мясцовы гарвыканкам і гарадскі савет дэпутатаў.

«Такое ўражанне, што гарвыканкам жыве сваім жыццём, а людзі — сваім. Шлюб зарэгістравалі, а далей пачынаюцца праблемы, дзе лекавацца, дзе ў садок хадзіць», — даводзіць віцебская актывістка БХД Тацяна Севярынец.

**Наста Ільіна, «Белсат»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не хачу ў СССР!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мала хто ведае, што ў показкі пра «хачу жыць у Беларусі, якую паказваюць па тэлебачанні», быў прататып. Стары савецкі анекдот пра тое, як настаўніца ў першым класе на «ўроку міра» распавядала дзецям, якая цудоўная краіна — СССР, якія там магчымасці, ніхто нікога не крыўдзіць, ва ўсіх добрыя цацкі... І адзін малы раптам заенчыў: «Хачу жыць у Савецкім Саюзе!»**



Фота www.diletant.media

Жаданне жыць у СССР на тыдні дэманстраваў беларускі кіраўнік. Ён сустрэўся са сваім старым сябрам — старшынёй фракцыі КПРФ у Дзярждуме Генадзем Зюганавым. «Падкрэсліваю абсалютна адкрыта, шчыра: вашы ідэі нам не чужыя. Больш за тое, у адрозненне ад многіх постсавецкіх рэспублік, мы спрабуем — і многае ў нас атрымліваецца з рэалізацыяй гэтых ідэй. Таму ідэя, што рынак нас выратуе, што капіталізм — гэта адзіная сістэма, якая можа сёння існаваць, поўная лухта. Трэба проста працаваць і шанаваць людзей. Прыйдзе час, калі мы пашкадуем, што ўсё з мінулага перакрэслілі», — казаў Аляксандр Лукашэнка.

«Мы стараемся трымацца, але цяжкавата без вас», — нават пажаліўся Аляксандр Рыгоравіч.

Бачна, сустрэча двух сяброў была вельмі цёплай, паколькі ўзгадваў яе Лукашэнка і на іншай нарадзе — з кіраўніцтвам Дзяржаўнага сакратарыята Савета бяспекі Беларусі, праваахоўных органаў і ведамстваў сістэмы нацыянальнай бяспекі. Правадыр Сінявокай, калі казаў пра парадак і дысцыпліну ў момант уборачнай кампаніі, адзначыў, што «ў савецкія часы было шмат добрага, што мы спрабуем захаваць».

Канешне, ён казаў гэта ў іншым ракурсе: маўляў, нядбайнасць потым нам дорага абыходзіцца. «Можаце палічыць, калі б мы страцілі, як заўсёды ў нас плануюць вяскоўцы і кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў, 10% ураджаю (гэта, нібыта, натуральныя страты). З 10 мільёнаў тон (збожжавых) сабранага страцілі б за 1 мільён тон. Памножце на 200 долараў прыкладна — сусветная цана. Грубы падлік дае нам страты», — сказаў ён.

Я, дарэчы, не так даўно таксама настальгаваў па часах СССР — калі запісваў дзіцё ў басейн. Не ў бясплатную, а ў платную групу. Каб аддаць свае грошы і зрабіць добрае дзіцяці, мне спатрэбілася выстаяць у чарзе такіх жа жадаючых тры гадзіны.

І стоячы гэтыя гадзіны, я ўзгадваў, як у часы СССР, яшчэ падлеткам, стаяў прыкладна такую ж чаргу — чатыры гадзіны — за пральнай пастай «Пальміра». Давалі яе па дзве бляшанкі ў адны рукі, і дзеля таго, каб яе набыць, бацькі дазволілі мне прагуляць школу...

Трохгадзінная чарга ў басейн у краіне, якая дзіцячы спорт абвяшчае прыярытэтам, — гэта тое добрае, што мы захавалі ад СССР?

Асабліва цікава, чаму раптам пра Аляксандра Рыгоравіча ўзгадаў яго сябра Генадзь Андрэевіч? Раней казалі, што Лукашэнка неаднаразова аказваў галоўнаму камуністу Расіі фінансавую падтрымку падчас рознага кшталту выбараў. А ў Расіі на носе — прэзідэнцкая кампанія. Няўжо галоўны расійскі камуніст прыехаў у Беларусь зноў шукаць грошы?

Мы самі выцыганьваем з Расіі дробязныя крэдыты, адкуль у нас дадатковыя фінансы? Ну і раней, магчыма, такая падтрымка была апраўданай — калі ў Расійскай Федэрацыі існаваў так званы «чырвоны пояс» рэгіёнаў. То бок тых, якія кантраляваліся камуністамі. Мы маглі аказваць падтрымку лідару КПРФ, узамен нашы тавары бесперашкодна пастаўляліся ў гэты «пояс». Зараз таго і блізка няма — усё пад Пуціным.

Больш за тое, да Расіі ў нас, як высветлілася, шмат наракання. У асноўным у РФ завіслі больш за паўмільярда нашых кроўна зароблены долараў. Гэты завісон — пратэрмінаваная знешняя дэбіторская запазычанасць замежных партнёраў перад беларускімі эканамічнымі суб'ектамі, сказаў журналістам генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк.

«Мы спрабуем шукаць грошы, праводзім мадэрнізацыю вытворчасцяў... А на сёння больш за паўмільярда грошай завісла. І, на жаль, не ўсе гэтыя грошы мы зможам дастаць. Таму што дзесьці ашуканскія структуры былі задзейнічаныя, калі наша прадпрыемства заганяе прадукцыю, скажам, у нейкае расійскае прадстаўніцтва або фірму, а тая банкрутуе. І ўсё — ужо цяжка будзе што-небудзь вярнуць пасля такіх дзеянняў», — заявіў генпракурор.

Заўважце, заходнія краіны, і нават Украіну ў якасці ганебнага прыкладу спадар Канюк не прыводзіў. Усё, што нам не сплочана, не выплачвае, у асноўным, «старэйшы брат» і «стратэгічны партнёр». Там добра ўзялі на ўзбраенне знакамітую фразу Мядзведзева: «Грошай няма, але вы трымайцеся, шчасця вам і здароўя». І зараз будуць паўтараць яе з любой нагоды. А некаторыя нашыя гаспадарчыя суб'екты, па словах таго ж Канюка, «з упартасцю, вартай лепшага прымянення, накіроўваюць у адну і тую ж кропку нашу прадукцыю без аплаты».

Вось бы спадар Зюганаў выбіў бы гэтыя грошы з расійскіх камерсантаў! Тады б сапраўды можна было б і падумаць пра «аддзяку» ў выглядзе пэўнай сумы — за калектарскія паслугі.

А можа, я дарма нагаворваю на чалавека. Можа, Зюганаў сапраўды прыехаў у Мінск як турыст — панастальгаваць з сябрам, прайсціся па горадзе. Урэшце, Мінск трапіў на пятае месца ў топ–30 гарадоў, дзе можна выдатна правесці выходныя. І гэта па версіі не кагосьці-небудзь, а брытанскай «The Times».

«Стаміліся ад Парыжа або Рыма? Паспрабуйце правесці выходныя ў Таліне ці Мінску — менш чым за 250 фунтаў стэрлінгаў», — піша выданне. Тым больш, што для паездкі ў Беларусь працягласцю да 5 дзён можна абысціся без візы.

«Футурыстычная архітэктура побач з савецкімі шматпавярховікамі і роспісамі, а таксама мноства пасляваенных помнікаў. Абавязкова паглядзіце оперу і балет у Вялікім тэатры, дзе добрыя месцы прадаюць менш чым за 1 фунт. Ежа тут добрая, у рэстаранах падаюць салянку — востры кіслы рускі суп, і бліны з мясной падлівай (верагодна, маюць на ўвазе мачанку). Увечары ідзіце за мясцовымі жыхарамі да шматлікіх корчмаў у нямецкім стылі», — рэкамендуюць аўтары матэрыялу.

Толькі вось бяда: у СССР не было корчмаў у нямецкім стылі. І замежных турыстаў таксама амаль не было. І без візы нікога не пускалі. А пра паўмільярда долараў народ нават не чуў. Затое было слова «дэфіцыт», і мандарыны з'яўляліся толькі на Новы год.

Зразумела, чаму Аляксандр Лукашэнка і Генадзь Зюганаў настальгуюць па СССР. Таму што тады дрэвы былі вялікія, самі яны — маладзейшыя і здаравейшыя. Але калі шчыра спытаць, ці хочуць яны насамрэч назад, у СССР? Думаю, не.

Вось і я туды больш не хачу.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алесь Юркойць



**Суд пакараў 7 гадамі зняволення беларускага асветніка і работніка Ашмянскай мытні. Алесь сваю віну не прызнаў.**

Зараз ён і яго адвакат будуць рыхтаваць касацыйную скаргу на прысуд.

Алесь Юркойць — вядомы ў Беларусі краязнавец і асветнік, папулярызатар беларускай культуры і мовы. Жыў у вёсцы Варняны Астравецкага раёна. Каля 20 гадоў працаваў інспектарам на Ашмянскай мытні. Усталёўваў памятныя камяні і шыльды беларускім паэтам (Казіміру Сваяку ў Вільні, Янку Быліну ў Клюшчанах), адкрыў музей братоў Стаповічаў у вёсцы Барані, арганізаваў міжнародны пленэры жывапісцаў (2007) і скульптараў (2008), паэтычны слэм (2013), правёў мноства лекцыяў, прэзентацый кніг, вандровак і экскурсіяў.

Алесь Юркойць арганізаваў правоз праз мяжу каменя Васіля Быкава. Валун, які быў падораны мэрыяй Хельсінкі як надмагільны помнік беларускаму пісьменніку, даехаў з Фінляндыі ў Вільню без праблем. Не праблемай было адшукаць грузавік, які даставіў бы камень на Усходнія могілкі ў Мінску да першай гадавіны смерці Быкава. Праблемы ўзніклі на мяжы. Камень вагою 3,5 тоны быў ацэнены мытняй па 5 еўра за кілаграм. У выніку шматхадовага плану Алеся помнік своечасова стаяў на магіле пісьменніка.

Юркойць запачаткаваў «Касінерскі фэст» — усебеларускі фэст у гонар паўстанцаў Каліноўскага. Кажуць, гэта стала апошняй кропляй, якая перапоўніла цярпенне мясцовага начальніка КДБ, які ўласнаручна арыштаваў Алеся.

## Алег Волчак



**Кіраўнік праваабарончага цэнтра «Прававая дапамога насельніцтву» (Украіна) і эксы-суддзя КС Міхаіл Пастухоў спрабуюць прыцягнуць да адказнасці суддзю Фрунзенскага суда Мінска Яўгена Пісарэвіча.**

Раней Вярхоўны суд не ўбачыў падстаў для прыцягнення Пісарэвіча да адміністрацыйнай адказнасці. Менавіта гэты суддзя адмовіўся выклікаць «хуткую дапамогу» Волчаку, якога медыкі павезлі з судовага пасяджэння з гіпертанічным крызам.

Адмову намесніка Вярхоўнага суда Руслана Аніскевіча вырашана абскардзіць. «Гэта судовы прэцэдэнт, калі абскарджваецца рашэнне Вярхоўнага суда аб адмове прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасці суддзю раённага суда. Раней грамадзяне атрымлівалі нематываваныя і неаргументаваныя адказы вышэйстаячых судоў на грубыя парушэнні суддзяў, якія разглядалі іх непасрэдна справы, але ніхто не абскардзіў гэтыя рашэнні ў суд. Мы хочам пачаць такую практыку і выклікаць у суд суддзю Фрунзенскага раёна Мінска, каб з яго калегамі разглядаць пытанне, з якімі парушэннямі ён вёў адміністрацыйны працэс», — адзначыў Волчак.

## Андрэй Арамнаў



**Беларускі цяжкаатлет, алімпійскі чэмпіён раптам выказаўся наконт палітыкі. Прычым, зрабіў гэта праз відэапартал Youtube.**

Адказваючы на пытанне, ці хоча ён стаць медыйнай асобай, спартовец заявіў: «Я даўно медыйная асоба ў Беларусі. У свой час у мяне была такая вядомасць у краіне, што... калі б я пайшоў у прэзідэнты, то за мяне прагаласавала б больш, чым за прэзідэнта нашай краіны. Калі выбары сумленныя былі б...».

Але ва ўсіх сваіх бедах ён абвінавачў беларусаў: «У мяне пачаліся праблемы з-за таго, што мяне пакрыўдзілі беларусы. Спачатку кіраўніцтва, потым перадало газетчыкам», — сказаў Арамнаў у інтэрв'ю, апублікаваным на ягоным канале на Youtube.

У 2010 годзе Арамнава на 5 гадоў пазбавілі права кіраваць транспартным сродкам і абавязалі выплаціць штраф у эквіваленце 3,5 тысячы долараў. Тады, паводле міліцыі, Арамнава трэці раз за два гады затрымалі за рулём п'яным. Арамнаў лічыўся прапаршчыкам адной з вайсковых частак унутраных войскаў, аднак за паводзіны, несумяшчальныя са статусам, быў звольнены.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Нарада з галоўнай апорай

**Узмацненне кантролю — наш адказ на выклікі сучаснасці.**




У канцы жніўня ў Мінску прайшоў Рэспубліканскі педагагічны савет, на якім з дакладам выступіў адзіны палітык (АП). Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. Настаўнікі, нароўні з лекарамі, у рамках беларускай мадэлі з'яўляюцца, па-першае, ідэалагічнай, маральнай асновай нашага грамадства; па-другое, — галоўнай апорай нашай дзяржавы. Прынамсі, такая афіцыйная версія.

Што тычыцца асновы, дык тут ёсць пытанні. Паводле прызнання АП, сфармуляваць нацыянальную ідэю, здольную легчы на душу і сэрца, «адміністрацыйным чынам» не ўдалося. Але гэта не прывяло да дэмантажу ідэалагічнай вертыкалі, складовай часткай якой з'яўляюцца настаўнікі, бо ў аснове беларускага грамадства па-ранейшаму — «чалавек савецкі», а значыць, чалавек іерархічны.

Вертыкаль для яго — прыгажосць у чыстым выглядзе, прыгажосць, якая ідзе ад жыцця. Як жа «чалавеку савецкаму» без вертыкалі, калі «не толькі эканамічныя і сацыяльныя выгоды, але і чалавечыя правы, унутраная годнасць, павага, «гонар» размяркоўваюцца ў адпаведнасці з сацыяльным статусам і становішчам у структурах улады». Тут я скарыстаўся падказкай дырэктара «Лявада-цэнтра» сацыёлага Льва Гудкова.

Наконт галоўнай апоры пытанняў не ўзнікае. Рэспубліка Беларусь, як гэта вынікае з артыкула 1 Канстытуцыі, — «унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава». А дзе дэмакратыя — там і выбары. А дзе выбары — там і ўчастковыя выбарчыя камісіі, якія не ў апошнюю чаргу камплектуюцца з настаўнікаў. Хто ж, як не яны валодаюць практычнымі навыкамі правільнага падліку галасоў!

### Лепшая ў свеце

Беларуская сістэма адукацыі з пачатку 1990-х гадоў паспела прайсці этап ломкі, этап станаўлення і ў цяперашні момант выйшла на этап удасканалення. Галоўнае на гэтым этапе — *«не страціць тое лепшае, што мы назапасілі за многія тысячагоддзі»*.

Я не памыліўся. Калі беларуская дзяржаўнасць вядзе свой адлік ад 3 чэрвеня 1994 года (Дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў), дык вытокі беларускай сістэмы адукацыі губляюцца ў глыбіні не дзесяцігоддзяў і не стагоддзяў, а сягаюць углыб «многіх тысячагоддзяў»! Кітай тут і побач не стаяў!

Ламаць праз калена такую сістэму адукацыі было б больш чым злачынствам — гэта было б памылкай. Удасканальваць жа яе можна толькі, калі вырашыць тыя пытанні, якія ставіць жыццё. Абапірацца ж на чые-небудзь напрацоўкі пры гэтым не варта, бо ні адзін народ на Зямлі такім унікальным па працягласці вопытам не валодае.

Таму няма нічога дзіўнага, што ўжо першая адукацыйная прыступка ў Беларусі — прыступка дашкольнай адукацыі — не мае аналагаў і па праве лічыцца лепшай у свеце. *«І гэта не галаслоўная заява»*.

У дакладзе АП шмат правільных слоў сказана пра дамінуючую ролю адукацыі ў свеце. Сучасная эканоміка — гэта эканоміка ведаў, і калі да прафесіяналізму дадаецца шчырая любоў да радзімы, дык канкурэнтаздольнасць краіны можна лічыць забяспечанай.

Для разумення ўкладу дашкольнай адукацыі ў поспехі беларускай мадэлі, неабходна памятаць, што пры пераходзе з другога года жыцця на трэці ў дзіцяці фармуецца (або не фармуецца) адна з найбольш каларысных дзелавых якасцяў — патрэба ў дасягненні паспяховасці. Канчатковае ж фарміраванне дзелавых якасцяў завяршаецца да шасці гадоў. Такія азбуковыя ісціны навукі псіхалогіі.

### Адрозніць казу ад каровы

Але рушым далей услед за дакладам АП. У XXI стагоддзі ўстойлівае развіццё вызначаецца не «радовішчамі нафты, газу або залатым запасам». З гэтым тэзісам не паспрачаешся. Чаму ж тады ў структуры беларускага ВУП доля адукацыі з 2000 па 2015 года скарацілася з 4,3% да 3,9%, пры адначасовым росце дзяржаўнага кіравання з 3,0% да 3,6%? Гэта ў абсалютных лічбах, а ў адносных апошні паказчык вырас на 20%, у той час як першы скараціўся на 9%. Не выключана, што гэтая дынаміка дапамагае нам зразумець, якая прафесійная група на самай справе з'яўляецца «галоўнай апорай нашай дзяржавы».

За гэты ж перыяд у структуры прамысловай вытворчасці доля нафтапрадуктаў павялічылася з 14,7% да 16,3% пры адначасовым скарачэнні долі машын і абсталявання з 8,9% да 6,7%, а долі транспартных сродкаў — з 4,5% да 3,0%.

Нечаканая статыстыка. Што перашкаджае выпускнікам лепшых у свеце ясляў і дзіцячых садкоў у дарослым жыцці ствараць новыя галіны і прарыўныя тэхналогіі? На якім этапе губляюцца перавагі адукацыйнай сістэмы, што фармавалася ад жыцця на працягу «многіх тысячагоддзяў»? Тут патрэбны сур'ёзны аналіз.

Істотныя прэтэнзіі ў АП маюцца да школы. Сучасныя дзеці, у адрозненне ад сваіх пасляваенных аднагодкаў, не прывучаныя да працы. Яны не працуюць летам на прысядзібных участках, і таму *«казу ад каровы адрозніць не могуць»*, са скрухай разважае АП. *«Каму краіну пакінем?»* Вось у чым пытанне. А тут яшчэ адна пошасць — інтэрнэт, без якога *«многія ўжо не здольныя лагічна сфармуляваць думку, выказаць сваё меркаванне»*.

Зрэшты, з выказваннем уласнага меркавання ёсць праблемы і ў тых, каму сёння за 40 і за 50 гадоў. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Дастаткова ўключыць тэлевізар і паглядзець на ўрадаўцаў.

У лістападзе 2016 года АП запатрабаваў за год давесці сярэдні заробак да 500 долараў. Ва ўрадзе дружна ўзялі пад казырок, нягледзячы на тое, што для чарговага дасягнення «святой лічбы» лістападаўскую сярэднюю зарплату трэба было павялічыць на 35%!

У 2015 годзе ў структуры ВУП аплата працы работнікаў склала 49,2% (45,5% у Расіі). Гэта вельмі высокі паказчык па еўрапейскіх мерках. Зарплатаёмістасці ВУП за 2016 год я не ведаю, але наўрад ці яна істотна змянілася. Але без адэкватнага росту эканомікі выкананне патрабаванняў АП па зарплаце скончыцца рымейкам крызісу 2011 года.

**У дакладзе АП шмат правільных слоў сказана пра дамінуючую ролю адукацыі ў свеце. Чаму ж тады ў структуры беларускага ВУП доля адукацыі скарацілася з 4,3% да 3,9%, пры росце дзяржаўнага кіравання з 3,0% да 3,6%?**

Але дзе і калі фіксаваўся падобны рост ВУП? За студзень-ліпень беларуская эканоміка прырасла на сімвалічныя 1,1%, але размовы пра 500 долараў (1000 рублёў) не спыняюцца. Лета заканчваецца. Папрацаваць на прысядзібных участках чальцам урада, я мяркую, ніхто не перашкаджаў. Няўжо прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў так захапіўся інтэрнэтам, што цалкам страціў здольнасць «выказаць сваё меркаванне»?

### Улік і кантроль

Але страцай вучнямі здольнасці лагічна сфармуляваць думку і выказваць сваё меркаванне пералік бед, прынесеных інтэрнэтам, не абмяжаваўся. Тэму негатыўнага ўплыву інтэрнэту падчас дыскусіі працягнула дырэктар Астравецкай гімназіі № 1 Алена Севасцьян. «У інтэрнэце ёсць усё, акрамя кантролю», — так яна выказала сваё негатыўнае стаўленне да сусветнага павуціння.

Згодна ленінскаму азначэнню, сацыялізм — гэта ў першую чаргу ўлік і кантроль, і толькі ў другую чаргу — электрыфікацыя. Таму няма нічога дзіўнага, што за 73 гады існавання савецкай улады «чалавек савецкі» пертварыўся не толькі ў чалавека іерархічнага, але і чалавека кіраванага (партыяй, урадам, уладамі ўсіх узроўняў). Спадзяюся, не варта тлумачыць, што кантроль у ленінскай трактоўцы — гэта заўсёды кантроль зверху ўніз, любая ж спроба арганізаваць яго ў адваротным кірунку прыраўноўвалася да антыдзяржаўнай дзейнасці.

Праблему інтэрнэту на Гродзеншчыне спрабуюць вырашаць традыцыйна: зрабіць больш жорсткім кантроль за сайтамі, у тым ліку за кошт праекту «Класны кіраўнік у сацыяльнай сетцы». Але існуе і прынцыпова іншы погляд на кантроль. Яго я запазычыў у дырэктара ліцэя Вышэйшай школы эканомікі Дзмітрыя Фішбейна.

Для паступлення на бюджэт у ВНУ абітурыенту трэба набраць 270–290 балаў за тры экзамены, і, нягледзячы на гэта, на першым курсе адсейваецца да 35%. Прычына палягае ў высокім узроўні кантролю за вучнямі ў расійскіх школах: бясконцыя інструкцыі, адсочванні і нагадванні, эсэмэскі бацькам і да т.п.

Пасля такой закантраляванасці падлетак аказваецца ва ўмовах, у якіх ён павінен сам набраць адукацыйныя крэдыты, то бок шмат у чым самастойна фармаваць сабе вучэбную праграму. У яго ўзнікае адчуванне, што ён нікому не патрэбны. Ад нязвыклай свабоды ў часткі студэнтаў зносіць дах, і яны пускаюцца ва ўсе цяжкія, а частка проста становіцца непаспяховымі. Яны не прывыклі і не могуць так вучыцца.

Сучасны чалавек жыве ва ўмовах нявызначанасці і свабоды выбару. Да такога жыцця і павінна рыхтаваць школа. У ліцэі Вышэйшай школы эканомікі вучні самастойна выбіраюць навучальныя планы і самі вызначаюць неабходную колькасць гадзін. Зрабіць правільны выбар няпроста. Таму чатыры разы за два гады (у Юр'еў дзень) вучні могуць самі скарэктаваць напрамак навучання.

* * *

І ў стандартнай беларускай школе, і ў ліцэі Вышэйшай школы эканомікі педагогі ідуць ад жыцця. Але ў першым выпадку — ад жыцця, успамінамі пра якое жыве «чалавек савецкі», у другім — ад жыцця рэальнага, што імкліва змяняецца. Нескладана здагадацца, у якім выпадку ў выпускнікоў будзе больш шанцаў стаць паспяховымі.

# Як Чэхія, Венгрыя і Польшча абагналі Беларусь

**Чаму Беларусь ніяк не можа зарабіць на экспарце? Эксперты Даследчага цэнтра ІПМ прааналізавалі паказнікі экспартнай актыўнасці Беларусі за 1998–2016 гады і ацанілі шанцы на рост.**




## Чаму гандляваць сыравінай дрэнна?

Дамінуючай прадукцыяй, якая пастаўляецца Беларуссю на знешнія рынкі ў гэтыя гады, сталі паліва, мяса, малако і прадукты харчавання, хімічная прадукцыя, і ў першую чаргу калійныя ўгнаенні, а таксама металы — гэта значыць, тавары, якія маюць адносна невысокую дададзеную вартасць. У 2016 годзе яны складалі 58,5% ад экспартнага кошыка Беларусі. Пры гэтым 80% экспарту ў краіны ЕС прыпадае на паліва, драўніну, хімічную прадукцыю і металы.

Беларусь ніяк не магла прыстасавацца да дынамікі сусветнага попыту: многія тавары, якія былі значнымі для беларускага экспартнага кошыка, не з'яўляліся значнымі для сусветнага экспарту.

Калі ў Беларусі ўдзельная вага сыравіны вырасла да 8,8%, то ў Венгрыі, Чэхіі і Польшчы значнасць дадзенай групы тавараў за гэты перыяд, наадварот, знізілася.

Удзельная вага капітальных тавараў скарацілася ў экспартным кошыку Беларусі з 28% да 15,3%. А, напрыклад, у Чэхіі яна вырасла з 33,5% да 42,7%.

«У структуры экспарту Беларусі сталі дамінаваць сыравіна і спажывецкія тавары (51% ад агульнага аб'ёму паставак за мяжу), у той час як у Венгрыі і Чэхіі капітальныя і прамежкавыя тавары складалі 55 і 58% у продажах на знешнія рынкі», — адзначаецца ў даследаванні.

Удзельная вага сярэднетэхналагічных тавараў у Беларусі за 1998–2016 гады скарацілася з 41 да 32%. У той час як у супастаўных краінах удзельная вага гэтай прадукцыі павялічвалася, дасягнуўшы ў Чэхіі і Венгрыі ў 2016 годзе 45% і 49% адпаведна. Высокатэхналагічныя тавары практычна зніклі з экспартнага кошыка Беларусі да 2016 года. А Венгрыя, Чэхія і Польшча актыўна нарошчвалі іх экспарт. У выніку ў Венгрыі і Чэхіі іх удзельная вага павялічылася да 22 і 20% адпаведна, а ў Польшчы — да 12%.

## Як электроніка ратуе эканоміку

Павелічэнне працэнту сыравінных тавараў, паводле ацэнак экспертаў, сведчыць не толькі пра праблемы для пашырэння экспарту, але і пра абмежаванні для ўстойлівага доўгатэрміновага эканамічнага росту. Як паказваюць разлікі, складанасць / прыбытковасць EXPY экспартнага кошыка ў Беларусі ў 2016 годзе была меншай, чым у Чэхіі, Венгрыі і Польшчы. Яна знізілася на 5% з 1998 года, у той час як ва ўсіх краін, з якімі праводзілася супастаўленне, назіраўся рост: у Чэхіі — на 4%, у Венгрыі — на 6%, у Польшчы — на 8,3%.

Беларусь практычна засталася ўбаку ад глабальных ланцужкоў кошту. Напрыклад, доля Беларусі ў сусветным экспарце прамежкавых вырабаў электронікі не змянілася з 1998 года і склала ў 2016-м 0,014%.

«Гэта сведчыць пра адсутнасць інтэграцыі ў ГЦС па дадзенай прадукцыі і выклікае асаблівае шкадаванне, паколькі дыяпазон тавараў, у якіх выкарыстоўваецца прамежкавая прадукцыя электронікі, пастаянна пашыраецца, і сусветны гандаль ёю ў перыяд, які разглядаецца, вельмі хутка рос як у абсалютным, так і адносным вымярэні», — адзначаецца ў даследаванні.

Для параўнання, у Чэхіі ўдзельная вага дэталяў і кампанентаў электронікі ў сусветным экспарце павялічылася ў 1998–2016 гадах з 0,2% да амаль 1%, у Польшчы — з 0,2 да 0,6%.

Яшчэ горш выглядае сітуацыя ў гандлі аўтакампанентамі. Удзельная вага Беларусі ў сусветным экспарце камплектуючых і запчастак знізілася ў аналізаваным перыядзе з 0,17% да 0,07%, Чэхіі і Польшчы павялічылася да 3,9% і 3,6% адпаведна, а Венгрыі — да 3,05%.

## Без новых рынкаў і тавараў

Праведзеныя ў працы разлікі паказалі, што прырост экспарту ў аналізаваным перыядзе ў Беларусі ў асноўным быў звязаны з пашырэннем паставак існых тавараў на існыя рынкі. Унёсак групы «з'яўленне новых тавараў і рынкаў» быў самым нізкім з супастаўных краін і толькі на 26,6% тлумачыў дынаміку паставак за мяжу. Напрыклад, у Польшчы ўнёсак дадзенай групы фактараў у дынаміку экспарту быў істотна вышэйшы і складаў 49%.

«Скарачэнне экспарту наяўных тавараў на традыцыйныя рынкі і знікненне з іх экспартных тавараў, унёсак якіх у дынаміку экспарту быў адмоўным (-21,63%), сведчыць пра неспрыяльныя змены ў экспартным кошыку і зніжэнне канкурэнтаздольнасці беларускай прадукцыі», — адзначаецца ў даследаванні.

Пры пастаўках новых тавараў на рынкі ў Беларусі назіраецца адносна нізкі паказнік іх «выжывання». Толькі 55% тавараў, якія з'явіліся ў 2000 годзе, захаваліся ў экспартным кошыку краіны да 2016-га. Гэты паказнік ніжэй, чым у Польшчы, дзе «выжывальнасць» склала 86%, а таксама Чэхіі і Венгрыі, у якіх працэнт захаваных таварных пазіцый дасягаў 65 і 73% адпаведна.

## Інвестыцыі вырашаюць усё

Выснова экспертаў: у межах існага экспартнага кошыка Беларусь мае абмежаваны патэнцыял для нарошчвання экспарту. Паляпшэнне сітуацыі немагчыма без змены яго тэхналагічнай структуры, павелічэння прадуктыўнасці / даходнасці экспартнага кошыка, уключэння ў глабальныя ланцужкі кошту, павышэння канкурэнтаздольнасці наяўных тавараў.

Для змены тэхналагічнай структуры экспарту і ўключэння ў глабальныя ланцужкі кошту Беларусі неабходна мэтанакіраванае прыцягненне прамых замежных інвестыцый. Менавіта дзякуючы ім за апошнія два дзесяцігоддзі краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы змаглі не толькі дамагчыся спрыяльных зрухаў у структуры эканомікі і экспартных кошыкаў, але і стварылі аснову для доўгатэрміновага росту прадукцыйнасці.

**«Заўтра тваёй краіны», пераклад НЧ**



**У светлую памяць гісторыка Аляксея Караля, я маю намер зрабіць шэраг артыкулаў, каб паказаць сапраўдны твар савецкай улады, і ў прыватнасці савецкай эканамічнай сістэмы. Каб тыя, хто сёння ці заўтра захоча зноў увасобіць у жыццё «савецкія сацыялістычныя ідэалы», хто цягне нас па шляху так званага сацыялістычнага развіцця, дакладна ўяўлялі сабе, да чаго гэта абавязкова прывядзе.**

# НЭП: пад пільным вокам спецслужбаў



Таццяна ПРОЦЬКА

## Савецкая спадчына

Сучасны чытач, асабліва малады, ужо дастаткова далёкі ад разумення працэсаў, якія адбываліся ў першай палове ХХ стагоддзя. Гэтаму шмат у чым спрыяе і наяўнасць афіцыйна-дзяржаўнай версіі савецкай гісторыі. Яшчэ жывым сведкам жыцця ХХ стагоддзя яно, мінулае, згадваецца толькі як перыяд іх асабістага жыцця, калі ўсе былі маладыя і здаровыя.

Папулярнасць «сацыяльнай гісторыі» таксама здымае праблему вывучэння галоўных рухаючых механізмаў савецкай дзяржавы. Новыя маладыя палітычныя лідары, якія выраслі ўжо пасля распаду СССР і шчыра жадаюць прынесці карысць сваёй краіне і народу, часта ўпадаюць у спакусу, калі знаёмяцца з поўнымі зачаравання і «рамантыкі чырвоных кастрычніцкіх нападаў» лозунгаў савецкага часу. Для Беларусі гэта асабліва актуальна, таму што палітыкі, якія прыйшлі да ўлады ў першай палове 1990-х гадоў у маладой незалежнай беларускай дзяржаве, гэтай спакусы не вытрымалі.

У Рэспубліцы Беларусь захавалі ад вынішчэння, а потым пачалі і аднаўляць шмат якія здабыткі савецкага часу развіцця, тыя ці іншыя структурныя элементы савецкай дзяржавы. Сярод тых палітыкаў было і ёсць папулярнае выказванне, што савецкая сістэма — самая сацыяльна арыентаваная ў свеце, ідэалагічна накіраваная на захаванне інтарэсаў працоўных, гнуткая і эканамічна эфектыўная. Толькі трэба «выправіць» гістарычныя памылкі, звязаныя ці то з асаблівасцямі масонска-сіяніскай змовы супраць Расіі, ці то з праявамі культаў асоб, ці то з неспрыяльнымі міжнароднымі абставінамі, асабліва наступствамі апошняй сусветнай вайны, ці то з нядобразычлівымі адносінамі краін-суседзяў.

Але, на шчасце ці на жаль, гісторыю нельга выправіць. Тым больш не выпраўляецца савецкая гісторыя.

Традыцыйна лічыцца, што галоўным рухавіком развіцця савецкай народнай гаспадаркі з'яўляліся рашэнні партыйных структур і з'ездаў або вышэйшых службовых асоб Камуністычнай партыі СССР і Беларусі. Разам з тым, у дзяржаўнай машыне існавалі адмысловыя органы, якія мелі адной са сваіх галоўных задач забеспячэнне працэсу эканамічнага развіцця краіны ў адпаведнасці з пазначанымі вышэйшымі органамі савецкай і партыйнай улады напрамкамі і параметрамі. Гэтыя органы працавалі ў цесным кантакце з органамі дзяржаўнага палітычнага і гаспадарчага кіравання, пракуратурай, судамі, рознымі іншымі кантралюючымі структурамі, валодалі часткай іх функцый.

Структуры гэтыя ў свеце маюць звыклую назву спецслужб, у Беларусі яны называюцца органамі дзяржаўнай бяспекі. У розныя часы савецкай Беларусі яны называліся надзвычайнымі камісіямі, палітычнымі ўпраўленнямі, наркаматам унутраных спраў, камітэтам дзяржбяспекі.

Глыбока сімвалічна, што прыхільнасць да савецкага дзяржаўнага ладу спалучылася з жаданнем захаваць савецкую назву галоўнага рухавіка эканамічнага прагрэсу — Камітэта дзяржаўнай бяспекі. Кіруючым элітам быў дадзены знак, які яны зразумелі дастаткова правільна.

Гісторыя савецкай Беларусі першай паловы ХХ стагоддзя непарыўна звязаная з гісторыяй СССР: працэсы, характэрныя для гэтага дзяржаўнага ўтварэння, адбываліся тут, не асабліва адрозніваючыся ад працэсаў, напрыклад, у цэнтральнай Расіі, хоць і са сваёй спецыфікай. Прывязка да эканомікі Расіі застаецца і да сёння.

## Сучасны НЭП

Галоўная навіна любой восені, па версіі беларускага ТБ, — колькі зерня сабралі з палёў. Усе тэленавіны пачынаюцца з інфармацыі пра эканамічныя падзеі. Як і амаль 100 гадоў таму, эканоміка — галоўная палітыка ў Беларусі. Але падабенства не толькі ў гэтым.



Кіраўнікі Беларусі з 1994 года намагаюцца пабудаваць тут сістэму, што была ў БССР падчас так званай «новай эканамічнай палітыкі» (НЭПу), з пачатку 1920-х і прыкладна да 1929 года.

У беларускай гістарычнай навуцы, як, дарэчы, і ў расійскай, у некаторых даследчыкаў назіралася і назіраецца пэўная рамантызацыя ленінскай ідэі — як з найменшымі стратамі для бальшавізму перажыць паслярэвалюцыйную і пасляваенную разруху і пабудаваць квітнеючую камуністычную краіну. Сутнасць ідэі простая: дазволіць абмежаваную прыватную ўласнасць перш за ўсё ў сферы абслугоўвання, але захаваць уласнасць дзяржавы ва ўсіх важных для развіцця эканомікі галінах вытворчасці.

НЭП у нашай гістарычнай памяці асацыюецца не толькі з адносным павышэннем жыццёвага ўзроўню беларусаў, але і з такімі з'явамі, як беларусізацыя і карэнізацыя (калі да кіраўніцтва краінай на ўсіх узроўнях павінны былі прыйсці прадстаўнікі беларускага ці карэннага насельніцтва, развівацца беларуская культура, культура карэнных для Беларусі нацыянальнасцяў і інш.), пачатак барацьбы з непісьменнасцю.

Безумоўна, перыяд НЭПу быў адным з найважнейшых станоўчых этапаў развіцця БССР як дзяржаўнага ўтварэння. Але ці была гэтая форма насамрэч найлепшай?

## Эканоміка — перш за ўсё

Акрамя поспехаў ад дзеяння інстытута прыватнай уласнасці, хоць і абмежаванага, у савецкай Беларусі для развіцця эканомікі ўжываліся іншыя, больш моцныя патаемныя вагары. Гэтымі вагарамі былі спецслужбы, якія ў тыя часы называліся ДПУ — гэтая новая назва была нададзеная супрацоўнікам Надзвычайных камісій, якія скампраметавалі сябе падчас так званага «ваеннага камунізму» рознымі злачынствамі. Менавіта падчас НЭПу гэтыя вагары былі створаныя, апрабаваныя і закладзеныя ў падмурак савецкай эканомікі як яе неад'емны складнік.

Ужо да сярэдзіны 1920-х гадоў дзейнасць дэпэушнікаў, ці, як іх называлі беларускія людзі, чэкістаў, з кантролю за палітычнай добранадзейнасцю перакрочыла ў галіну эканомікі. Тлумачылася гэта, як і сёння, тым, што ніякія палітычныя задачы не могуць быць вырашанымі без «заваёваў эканомікі».

У прывітальнай тэлеграме, накіраванай у ЦК КП(б)Б з нагоды сёмых угодак Кастрычніка сакратаром партыйнай ячэйкі ДПУ Беларусі Волкавым у лістападзе 1924 года, адзначалася: «...У нас ёсць не толькі жывыя белагвардзейскія ворагі, але шмат і іншых веліччэзных перашкод — гэта гаспадарчае будаўніцтва. НЭП ператварыць у камунізм — вось наша цяжкая задача. Ператварыць 1/6 частку зямнога шара ў рэвалюцыйную кузню, у якой будуць каваць пралетарскія камуністычныя молаты для стварэння Чырвонага Кастрычніка і ў іншых заходнееўрапейскіх пакуль яшчэ буржуазных дзяржавах. І гэтага мы даможамся, а закладам нашай перамогі з'яўляецца наша гаспадарка, што аднаўляецца гіганцкімі крокамі».

У «ператварэнні НЭПу ў камунізм» спецслужбам адводзілася асаблівая роля — роля галоўнага кантралёра за ўсімі аспектамі сацыяльнага і эканамічнага развіцця.

## Тайная форма Дзяржкантролю

У ДПУ быў створаны адмысловы аддзел — эканамічны, які збіраў інфармацыю пра эканамічнае развіццё Беларусі, ён называўся скарочана ЭКА. Для работы ЭКА стварылі асведамляльную сетку, дзейнасць якой рэгулявалася адмысловай Інструкцыяй аб асведамляльнай службе. У адпаведнасці з інструкцыяй, агентурна-асведамляльны апарат павінен быў складацца з масавай асведамляльнай сеткі, сакрэтнай агентуры і штатных агентаў. Інфарматары вербаваліся апаратам сакрэтных упаўнаважаных пры Інфармацыйным аддзеле сакрэтнага аддзелу ДПУ «на патрыятычнай аснове», гэта значыць, без сістэматычнай грашовай узнагароды. Восенню 1922 года былі ўсталяваныя дзве катэгорыі пазаштатных супрацоўнікаў — інфарматары і паведамляльнікі.

Інфарматары — штатныя работнікі ўстаноў і прадпрыемстваў, грамадскіх арганізацый, прадстаўнікі розных груп насельніцтва горада і вёскі. Галоўнай задачай інфарматараў было «асвятленне настрояў» і спраў на прадпрыемствах і ва ўстановах, праца кіруючага і адміністрацыйна-гаспадарчага апаратаў. Паколькі афіцыйна ў дзейнасць кааператываў і прыватных прадпрыемстваў спецслужбы ўмешвацца не маглі, яны дзейнічалі галоўным чынам праз

інфарматараў. Паведамляльнікаў у Беларусі называлі таксама «сачкомы» — ад слова «сачыць».

У снежні 1922 года былі сфармуляваны агульныя палажэнні дзейнасці ЭКА:

«1. Асновай працы эканамічнага аддзялення павінна быць усебаковае асвятленне ўсяго эканамічнага жыцця Беларускай Рэспублікі з мэтай выяўлення ненармальных і злачынных бакоў, у выглядзе эканамічнай здрады, тэхнічнай здрады, эканомшпіянажу, буйнога сабатажу, падробак і да т.п. 2. Галоўную ролю ў працы эканомаддзелаў павінна адыгрываць кваліфікаванае спецыяльнае асведамленне. З гэтай мэтай яно павінна мець пастаяннае назіранне і кіраўніцтва з боку пам. начальніка па эканомасвятленні. 3. Прыступіць да неадкладнага насаджэння спецыяльнай агентуры па гаспадарчых органах для вядзення спецработы па буйных агентурных распрацоўках. 4. Звесткі, здабытыя пра працу таго ці іншага гаспадарчага органа негалосным шляхам, павінны супастаўляцца з паралельна атрыманымі звесткамі асведамляльнага характару, і ўсё гэта да ўсталявання факту павінна канцэнтравацца ў літарнай справе, а пазней вылучацца ў агентурную справу, затым, пасля заканчэння аперацыі, заводзіцца следчая справа...».

ЭКА таксама выяўляла «палітычную фізіяномію кіраўнікоў і работнікаў прадпрыемстваў і ўстаноў», характарызавала іх і перадавала атрыманую інфармацыю ў сакрэтнае аддзяленне. Была рэгламентаваная дзейнасць і мясцовых падраздзяленняў ЭКА: «2. Для вывучэння ўсіх бакоў гаспадарчага жыцця губерні варта стварыць у адпаведных галінах прамысловасці сетку інфарматараў з ліку спяцоў. 3. Разам з працай па вывучэнні буйной прамысловасці звярнуць асаблівую ўвагу на сельскую гаспадарку і падуладныя яму ўстановы як непасрэдна звязаныя з буйной прамысловасцю», указвалася ў рэзалюцыі, прынятай 5 сакавіка 1922 года на з'ездзе начальнікаў палітбюро (так тады называліся мясцовыя аддзяленні ДПУ) Гомельскай губерні.

Ужо ў дакладзе аб працы ДПУ Бел. за снежань 1922 года паказвалася, што ЭКА праз асведамленне выканаў 73 заданні, атрымаў 80 інфармацыйных зводак аб дзейнасці асобных установ. Былі заведзеныя следчыя справы — з нагоды буйных крадзяжоў на мінскай бойні, злоўжыванняў у Койданаўскай нарыхтканторы, злоўжыванняў у сельскім падсобным пункце Мазырскай нарыхтоўчай канторы і іншыя.

Супрацоўнікі ЭКА падрабязна інфармавалі сваё кіраўніцтва пра змены, якія адбываюцца ў сувязі з новай эканамічнай палітыкай. «З дакладаў высветлілася, што працоўныя імкнуцца перайсці на прыватныя прадпрыемствы, дзе аплата вышэй... Увогуле, усе прыйшлі да такой высновы, што адзінай умовай для ўзняцця прадукцыйнасці на нашых прадпрыемствах з'яўляецца забеспячэнне працоўных усім неабходным, як то: адзеннем, харчаваннем і прадметамі шырокага спажывання. Практыка паказала, што ніякія прымусовыя захады не дапамогуць да таго часу, пакуль працоўныя не будуць адчуваць сябе матэрыяльна забяспечанымі».

## Кадры вырашаюць усё

Да 1929 года ДПУ БССР не імкнулася ўзяць на сябе выпраўленне недахопаў у эканоміцы. Атрыманыя апаратыўным шляхам звесткі адпраўляліся ў той дзяржаўны орган, які мог ці павінен быў сітуацыю выправіць. Паралельна інфармацыя накіроўвалася кіраўніцтву ЦК КП(б)Б, у асабліва важных выпадках — першаму сакратару ЦК КП(б)Б. Напрыканцы паведамленняў, дакладных запісак стаялі дзве стандартныя фразы: «накіроўваецца для Вашага рэагавання» ці «для Вашага інфармавання».

Усе матэрыялы, якія зыходзілі са спецслужбаў, з'яўляліся сакрэтнымі. Пасля прачытання адрасат абавязаны быў вярнуць іх у інфармацыйны аддзел ДПУ, яны захоўваліся там пэўны час, а затым падлягалі знішчэнню або перадачы ў архіў ДПУ.

Акрамя інфармацыі аб працы прадпрыемстваў збіраліся звесткі аб добранадзейнасці супрацоўнікаў. Гэтай інфармацыяй шырока карыстаўся размеркавальны аддзел ЦК КП(б)Б. «З нагоды вылучэння НК аховы здароўя кандыдатуры Алонава Я.Ф. на пасаду рэктара ветэрынарнага інстытута, які адкрываецца ў Віцебску, ЦК КПБ просіць паведаміць, ці не маюцца ў Вас звесткі, кампраметуючыя гр. Алонава, якія могуць перашкаджаць вышэйадзначанаму прызначэнню», — такія лісты на імя кіраўніка ДПУ дасылаліся ў сувязі з прызначэннямі на кіруючыя пасады любога ўзроўню. Пры прызначэнні ва ўстановы, якія мелі дзяржаўнае значэнне або сакрэтнасць, правяраліся і шараговыя службоўцы. Так, пры накіраванні нават камуністаў на працу ў мытныя органы, запытваліся органы ДПУ.

Асаблівая ўвага надавалася праблемам, якія маглі выклікаць масавую незадаволенасць, — выплаце зарплаты, умовам працы, адносінам да дзяржаўных ініцыятываў. Звесткі аб затрымцы заработнай платы дасылаліся як сакратару ЦК КП(б)Б, так і ў інфармацыйны аддзел АДПУ ў Маскву ў выглядзе спецыяльных паведамленняў.

Так, 14 лютага 1925 года была дасланая наступная спецзводка: «Па наяўных у нас звестках Вітбуд (аддзяленне Белдзяржбуда) у дадзены момант перажывае вострыфінансавы крызіс. Рабочым зарплата не выплачаная за 4 месяцы, за выключэннем частковых авансаў, выдадзеных на пачатку студзеня бягучага года. Рабочыя перастаюць верыць, што ім заплацяць, і з кожным днём усё больш і больш настойліва патрабуюць неадкладнай выплаты. У выпадку, калі зарплата не будзе выплачаная неадкладна, непазбежныя эксцэсы. Вітбуд самастойна ліквідаваць запазычанасць не ў стане з-за адсутнасці ў касе грошай, таму што Упраўленне Паветранага Флоту ў Маскве да гэтага часу не выплаціла грошай на пабудову 8-мі ангараў, матывуючы тым, што выканаўчы каштарыс складзены Вітбудам няправільна. Пытанне перададзенае на рашэнне судовых органаў, але да іх рашэння атрымання грошай не прадбачыцца. Запазычанасць рабочым і служачым дасягае 30 тыс. рублёў. У дадзены момант пакінута ўсяго толькі 14 служачых і каля 50-ці чалавек працоўных, астатнія ж звольненыя, аднак разлік з імі не зроблены».

## Бясконцая барацьба з бюракратыяй

У кастрычніку 1926 года разгарэлася чарговая кампанія па барацьбе з бюракратызмам у дзяржаўных установах. Прадпрыемствам даручылі правесці рэарганізацыю, скараціць колькасць пасад, пацвердзіць абгрунтаванасць службовых акладаў. Спецслужбам даручалася праверыць правільнасць рэарганізацыі на прадпрыемствах.

У бюлетэні «Аб ненармальнасцях у працы БелШкло» ў кастрычніку 1926 года адзначалася беспадстаўнае павелічэнне зарплаты інжынера, што месца звольненай машыністкі заняў агент па невядомых чаму і «ў сутнасці нічога не змянілася», штатным работнікам прыпісаныя нагрузкі, якія яны не выконвалі; супрацоўнікі выкарыстоўваюць дома 10 тэлефонных апаратаў, у той час як ва ўстанове іх толькі 6; нарыхтоўшчыку сыравіны з Маскоўскай канторы дадаткова выплачваецца 150 рублёў за працу, якая ўваходзіць у яго службовыя абавязкі. Звярталася ўвага на нізкую кваліфікацыю супрацоўнікаў, на тое, што «праект ваннай печы пажырае шмат паліва», што існуе авансавая запазычанасць служачым трэста.

Першапачаткова дзейнасць ДПУ абмяжоўвалася «паведамленнямі» кіраўніцтву пра недахопы развіцця эканомікі. Некаторыя недахопы выпраўляліся, але ў цэлым паляпшэння сітуацыі не назіралася. Сітуацыя ў сярэдзіне 1920-х гадоў была падобная на сённяшнюю — дрэннага кіраўніка «абмяркоўвалі» на пасяджэннях партыйных органаў, пазбаўлялі адной кіруючай пасады і накіроўвалі на іншую. Скарачэнне пасад і нават установ праз некаторы час стымулявала павелічэнне іх колькасці.

Дзяржаўна-партыйная і гаспадарчая бюракратыя даволі хутка стала самадастатковай і не хацела мець ніякіх абмежавальнікаў для ўласнага ўзбагачэння. НЭП жа не толькі даваў самыя шырокія магчымасці для ўзбагачэння чыноўніцтва, але рабіў гэтае ўзбагачэнне прывабным і жаданым.

Частка вышэйшага кіраўніцтва СССР даволі хутка заўважыла гэтую асаблівасць развіцця НЭПу. Для барацьбы з бюракратычным уплывам вырашылі яшчэ болей пашырыць уплыў спецслужбаў, каб, абапіраючыся на іх, змагацца з гэтай новай формай контррэвалюцыі. Узначаліў барацьбу спачатку Фелікс Дзяржынскі, а пасля яго раптоўнай смерці — Іосіф Сталін, які даволі хутка гэты НЭП і скончыў.

## Крымінал у галіне эканомікі

Каб пашырыць магчымасці спецслужбаў праўплываць на развіццё эканомікі, іх дзейнасць атрымала юрыдычнае абгрунтаванне. 15 лістапада 1928 года ў Крымінальным Кодэксе БССР былі вызначаныя «контррэвалюцыйныя злачынствы ў галіне эканомікі».

«Контррэвалюцыйныя злачынствы ў галіне эканомікі» караліся па трох артыкулах КК БССР — 69, 71 і 75. Усе яны належалі да «расстрэльных», то бок прадугледжвалі пакаранне не толькі ў выглядзе пазбаўлення волі не менш за 3 гады, канфіскацыю маёмасці, паразу ў правах, але і расстрэл вінаватага.

Расстрэл мог прымяняцца за «падрыў дзяржаўнай прамысловасці, транспарту, гандлю, грашовага звароту або крэдытнай сістэмы, а таксама кааперацыі, зроблены з контррэвалюцыйнымі мэтамі, шляхам адпаведнага выкарыстання дзяржаўных установ і прадпрыемстваў, або супрацьдзеянне іх нармальнай дзейнасці, а роўна выкарыстанне дзяржаўных установ і прадпрыемстваў або супрацьдзеянне іх дзейнасці зробленыя ў інтарэсах былых уласнікаў або зацікаўленых капіталістычных арганізацый» (арт. 69), а таксама за псаванне дзяржаўнай маёмасці (арт. 71) і «свядомае невыкананне кім-небудзь пэўных абавязкаў ці наўмысна нядбайнае іх выкананне са спецыяльнай мэтай паслаблення ўлады ўрада і дзейнасці дзяржаўнага апарату» (арт. 75).

Апошняя група злачынстваў называлася «контррэвалюцыйны сабатаж». Прычым прадугледжвалася пакаранне не толькі за ўжо выкананыя дзеянні, але і за арганізацыйную дзейнасць па іх падрыхтоўцы, а таксама за ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі (арт. 76). Да асабліва небяспечных злачынстваў належалі таксама кантрабанда, парушэнне працоўнай дысцыпліны на транспарце, парушэнне правілаў валютных аперацый, выраб фальшывых грошай. Захады «сацыяльнай абароны» таксама былі суровыя — ад трох гадоў пазбаўлення волі да расстрэлу.

Да іншых злачынстваў супраць дзяржаўнага кіравання ў галіне эканомікі адносіліся: няспалата падаткаў, адмова ад выканання работ, якія маюць дзяржаўнае значэнне, «злоснае невыкананне пастаноў і правілаў, якія забяспечваюць паспяховую калектывізацыю сельскай гаспадаркі, у тым ліку злосны забой і распродаж жывёлы (рагатай і асабліва коней) з мэтай перашкодзіць правядзенню мерапрыемстваў па абагульненні жывёлы».

Караўся забой коней без дазволу ветэрынарнага лекара, ухіленне ад пастаноўкі на ўлік інжынерна-тэхнічных работнікаў, а таксама іх адмова перайсці на іншую працу па рашэнні органаў працы. Крымінальна караліся кіраўнікі прадпрыемстваў, устаноў, гаспадарак за парушэнне планавага размеркавання рабочай сілы, тэхнічнага рэжыму, вытворча-тэхнічнай дысцыпліны.

Крымінальнае пакаранне накладалася «за парушэнне законаў, пастаноў і правілаў, якія рэгулююць гандаль і прамысловасць, за выпуск недабраякаснай або некамплектнай прадукцыі». За выпуск прадукцыі з парушэннем «абавязковых стандартаў» дырэктары, галоўныя інжынеры і начальнікі аддзелаў тэхнічнага кантролю караліся як за «шкодніцтва».

Падлягалі крымінальнаму пераследу парушэнне правілаў будаўнічых работ, парушэнне правілаў установак механічных рухавікоў, «продаж, абмен або водпуск на бок адпушчанага прадпрыемствам абсталявання і матэрыялаў, якія сталіся залішнімі і нявыкарыстанымі».

## Міжвольныя паралелі

Сучасныя дэкрэты, у тым ліку і знакаміты дэкрэт пра «дармаедаў», на гэтым фоне хоць і выглядаюць вельмі паблажліва, на самай справе, як і ў часы НЭПу, прызначаныя змусіць людзей сумленна і якасна працаваць. Нават больш жорсткімі метадамі гэта не ўдалося ў 1920-я гады.

Сам ініцыятар НЭПу Уладзімір Ленін зазначаў, што НЭП — палітыка часовая, якая можа скончыцца або пераходам да «буржуазнай дзяржавы», або да сацыялістычнай. У гісторыі БССР пераход адбыўся да таго сацыялізму, якім яго бачылі бальшавікі. Ён скончыўся ўсталяваннем новага «чырвонага тэрору», названага па імені тагачаснага кіраўніка СССР — сталінскім.

Для сучаснай Беларусі новы НЭП некалькі зацягнуўся. Але пераход да іншай «палітыкі» непазбежны. Чым ён скончыцца? Ператварэннем Беларусі ў «новую Данію», пра якую марыў Дзмітрый Прышчэпаў, наркам сельскай гаспадаркі БССР у 1920-я гады, або масавымі рэпрэсіямі, пашырэннем уплыву спецслужбаў і пошукам ворагаў эканамічнага развіцця?



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Усё для спорту

Чыноўнікі Туркменістана — абсалютныя рэкардсмены па крэатыву, як спагнаць грошы з насельніцтва. Усё дзякуючы «Азіядзе» — Пятым Азіяцкім гульням у закрытых памяшканнях і па баявых мастацтвах, якія адкрыюцца ў Туркменістане ў гэтым месяцы. Падрыхтоўка да гульняў пачалася яшчэ пару гадоў таму, адбіўшыся ў тым ліку на заробках бюджэтнікаў. З 2016 года ва ўсіх супрацоўнікаў гэтага сектару 20–30 працэнтаў заробкаў утрымліваецца «для развіцця спорту». Аднак, падаецца, гэта была толькі ўверцюра. На мінулым тыдні работнікам шэрагу прадпрыемстваў Ашхабада, якія ўваходзяць у склад Міністэрства камунальнай гаспадаркі, загадалі здаць пашпарты на праверку наяўнасці прапіскі ў сталіцы Туркменістана. Нічога не падазраючы, камунальнікі выканалі загад, каб у хуткім часе даведацца, што за вяртанне пашпартоў трэба аддаць 200 манатаў (28,5 долара). Тым, хто адмовіўся вяртаць пашпарт, пагражаюць звальненнем. Як пішуць апазіцыйныя медыя, большасць камунальнікаў вымушаныя былі шукаць грошы, паколькі знайсці працу ў Туркменістане не так проста. Адзінае, што можа неяк кампенсаваць людзям іх праблемы, — «Азіяда» так ці інакш закончыцца праз два тыдні.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Пра расійскую інтэрвенцыю

Не пакінулі без увагі вучэнні «Захад–2017» і польскія пісьменнікі. Напярэдадні ў кніжных крамах Польшчы з'явілася кніга «Inwazja» («Інтэрвенцыя»), якую напісаў публіцыст Войтак Мілашэўскі. Кніга распавядае пра магчымую акупацыю Польшчы з боку Расіі. Навінка выклікала моцную рэакцыю аўдыторыі, паколькі ў яе персанажах можна лёгка пазнаць цяперашніх лідараў Польшчы. Яны, калі верыць сюжэту, не здольныя абараніць краіну. Польская армія пад іх кіраўніцтвам на старонках кнігі ўвесь час адступае. Ініцыятарамі сапраўднага супраціву становяцца простыя палякі, далёкія ад пафасу нацыяналізму — фішкі цяперашняга ўраду. Аднак самы вялікі скандал справакавала версія аўтара пра тое, што NATO ў выпадку польска-расійскай вайны праігнаруе просьбы Польшчы пра дапамогу. Сам аўтар кажа, што яго кніга — папярэджанне цяперашняй польскай эліце, якая ўмудрылася пасварыцца з усімі суседзямі, і ў тым ліку з немцамі. Застаецца дадаць, што пакуль выдадзеная толькі першая частка «Інтэрвенцыі». З часам аўтар збіраецца апублікаваць працяг скандальнай кнігі.

**Паводле польскай прэсы**

### КНДР. Эканамічны цуд

Калі згадваюць Паўночную Карэю, акрамя ўсяго, дакладна ўзнікае асацыяцыя з вельмі беднай краінай. Між тым, як піша «Financial Times», сёння вотчына Кімаў перажывае сапраўдны эканамічны бум. Толькі ў мінулым годзе ВУП краіны ўзняўся на 3,4 працэнта — лепшы паказнік ледзь не за два апошнія дзесяцігоддзі. Прычына поспехаў эканомікі КНДР, калі верыць выданню, звязаная з легалізацыяй нефармальных прыватных рынкаў. Пасля прыходу Кім Чэн Ына да ўлады, у краіне было легалізавана амаль 400 мясцовых кірмашоў, дзе грамадзяне цяпер могуць вольна прадаваць прадукты са сваіх агародаў і нейкія саматужныя вырабы. З улікам таго, што 80–90 працэнтаў прыбытку сем'яў у КНДР складаецца з таго, што людзі прыватным чынам вырабляюць, удалося часткова вырашыць праблему дэфіцыту прадуктаў. Прычым сам Кім Чэн Ын, мяркуючы па яго заявах, збіраецца і далей даваць рынкавай ініцыятыве больш свабоды. У іншыя часы такую інфармацыю на Захадзе, напэўна б, віталі як знак асцярожных рэформаў. Аднак на фоне эскалацыі вакол ядзернай праграмы КНДР паляпшэнне эканомікі безумоўна азначае пашырэнне базы падтрымкі існуючага рэжыму.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЛАТВІЯ. Квасная вайна

Ледзь не асноўнай у Латвіі стала тэма квасу. Усё праз новы напой фірмы SIA Ilgezeem, які будзе называцца «Лясныя браты». Паколькі ў прэсу трапіла этыкетка будучага напою, няма сумневаў, пра якіх лясных братоў ідзе размова. На этыкетцы выяўленыя людзі, падобныя на ўдзельнікаў антысавецкага партызанскага руху, які дзейнічалі ў Латвіі пасля Другой сусветнай вайны. Прарасійская прэса пабачыла ў назве вялікую правакацыю, за якой, быццам, стаіць непасрэдна кіраўніцтва NATO. Пра гэта, нібыта, сведчыць тое, што раней на веб-старонцы блоку быў змешчаны ролік у гонар лясных братоў. У сувязі з гэтым гучаць залікі да рускамоўных жыхароў Латвіі не набываць крамольны квас. Нават пішуць, што гэта пробны крок, каб пасля запусціць марку «Квас легіянераў СС». Тэма байкоту квасу з боку рускамоўных латышоў вельмі парадавала мясцовых жартаўнікаў, паколькі квас — відавочна не самы любімы напой рускамоўных. Што тычыцца маркетолагаў, дык яны бачаць тут проста арыгінальны рэкламны прыём.

**Паводле латышскай прэсы**

# Рэпарацыі? Ніхт ферштэйн!

*Алег НОВІКАЎ*

**Напярэдадні чарговай гадавіны пачатку Другой сусветнай вайны Варшава ўзняла тэму рэпарацый. Як немцы рэагуюць на такія патрабаванні, і якія могуць быць наступствы?**




На самай справе, палякі — далёка не першыя, хто ўздымае падобнае пытанне. Значна раней пра рэпарацыі пачалі казаць грэчаскія левыя. У 2015-м у канцылярыі Алексіса Цыпраса ад Берліну патрабавалі некалькі мільярдаў еўра за нацысцкую акупацыю 1940–1944 гадоў. Цікава, што афінскіх палітыкаў адразу падтрымала адна з фракцый расійскага палітыкуму. Дэпутаты Дзярждумы стварылі рабочую групу па падліку ўрону, які нанесла Германія, калі напала на Савецкі Саюз, і збіраліся выставіць немцам рахунак аж на 3–4 трыльёны долараў.

Аднак грэчаскія ініцыятывы наконт рэпарацый забуксавалі. Магчыма, таму, што Цыпрас, з-за якога і пачаўся ўвесь сырбор, неяк дамовіўся з немцамі наконт рэструктурызацыі пазыкі. А вось з Польшчай у Меркель пакуль дамовіцца не атрымліваецца. Варшава вуснамі дырэктара МЗС і прэм'ерміністра настойвае на пачатку адпаведных нямецка-польскіх кансультацый. Не ахаладзіў палякаў нават афіцыйны каментар нямецкага МЗС, дзе катэгарычна адмовіліся задавальняць патрабаванні кабінету PiS.

Пры гэтым у Берліне прызнаюць, што акупацыйны рэжым на тэрыторыі Польшчы быў для мясцовых сапраўднай трагедыяй. Кожная другая ахвяра Халакосту паходзіла з тэрыторыі даваеннай Рэчы Паспалітай. Гэта — без уліку разбуранай падчас бамбардзіровак інфраструктуры, рознага кшталту кантрыбуцый, выкарыстання насельніцтва на прымусовых працах і гэтак далей.

Тым не менш, як лічаць у Берліне, ФРГ мае поўнае права ігнараваць польскія патрабаванні. Сваю пазіцыю нямецкія дыпламаты аргументуюць спасылкамі на дакументы. Па-першае, дамовы ў Патсдаме, якія замацавалі прынцыпы ўрэгулявання міжнароднага парадку. Па-другое, заява польскага ўраду ад 1953 года, паводле якой палякі адмаўляюцца ад любых нямецкіх грошай, каб, як гаварылася ў дакуменце, «палепшыць добры эканамічны стан Германіі» — аднаго з чыннікаў міру на кантыненце. І, нарэшце, існуе дамова пра сяброўства паміж ужо аб'яднанай ФРГ і дэмакратычнай Польшчай ад 1991-га, дзе, зноў жа, няма ніякіх згадак пра кампенсацыі за вайну і акупацыю.

Асобна тут стаіць заява ад 1953 года. Цяперашняя Варшава лічыць, што той дакумент не мае легітымнасці з улікам тагачаснай недэмакратычнай природы Польскай Народнай Рэспублікі, якая на самай справе была марыянеткай Масквы. На думку Берліна, гэты тэзіс супярэчлівы. У такім выпадку трэба дэнансаваць усе міжнародныя дакументы, падпісаныя аўтарытарнымі рэжымамі савецкага блоку, у тым ліку і фундаментальныя Хельсінкскія дамовы.

**Ілюзорнасць перспектыў атрымаць рэпарацыі ад ФРГ разумеюць і ў PiS. Аднак тэму рэпарацый, маўляў, намагаюцца актываваць, бо яна дазваляе польскім правым падтрымліваць тонус у сваіх выбаршчыкаў**

З боку нямецкай прэсы прапануюцца і іншыя цікавыя аргументы. Напрыклад, папулярны часопіс «Der Spiegel» лічыць практыку рэпарацый анахранізмам, які не спрыяе справе міжнароднай кааперацыі. Як доказ узгадваюць уплыў рэпарацый на нямецкае грамадства пасля прайгранай Першай сусветнай вайны. Тэма выплат краінам Антанты, якая была любімай фішкай праварадыкальных агітараў, не дазволіла стабілізаваць палітычную сітуацыю ў Веймарскай рэспубліцы і адчыніла нацыстам шлях да ўлады. Ёсць вельмі незвычайны аргумент: немагчымасць матэматычна вылічыць суму, якую Германія павінна заплаціць Польшчы, праз жудасны маштаб наступстваў гітлераўскай акупацыі.

Шырокі гарызонт нямецкіх меркаванняў на карысць таго, каб не плаціць палякам, выглядае трошкі дзіўна, паколькі ўсім цудоўна зразумела: ніякія рэпарацыі Берлін усё роўна плаціць не збіраецца. Хаця б таму, што такі крок быў бы падобны на адкрыццё скрыні Пандоры. Няма сумневаў, што ўслед за палякамі знойдзецца шмат урадаў, якія пажадаюць скарыстацца прэцэдэнтам і палепшыць матэрыяльны стан сваіх краін за кошт бюргераў.

Як піша газета «Die Welt», ілюзорны характар перспектыў атрымаць рэпарацыі ад ФРГ цудоўна разумеюць і ў атачэнні Яраслава Качыньскага, лідара PiS. Аднак тэму рэпарацый, маўляў, намагаюцца інфармацыйна актываваць, паколькі яна дазваляе польскім правым падтрымліваць тонус у сваіх выбаршчыкаў. Плюс польскія патрабаванні рэпарацый служаць нейкай сімвалічнай вендэтай Варшавы на адрас Меркель, якая актыўна крытыкуе ўнутрыпалітычны курс Качыньскага.

Нягледзячы на тое, што спрэчка наконт рэпарацый, здавалася, завочна асуджаная на тое, каб закончыцца патам, існуе адзін трывожны аспект. Ці не справакуе тэма рэпарацый Польшчы рост рэваншысцкіх настрояў у Германіі? Тым больш зараз, калі ўпершыню за апошнія 50 гадоў праварадыкалы ў выглядзе партыі «Альтэрнатыва для Германіі» маюць рэальны шанец атрымаць дэпутацкую групу ў Бундэстагу.

Аналіз кантэнту нямецкіх інтэрнэт-форумаў дазваляе трошкі супакоіцца на гэты конт. Большасць блогераў згодныя, што Германія зрабіла Польшчы шмат кепскага ў часы Гітлера. Праўда, аматараў плаціць рэпарацыі палякам няшмат. З іншага боку, нельга не заўважыць, што ў інтэрнэце хапае тых, хто заклікае раз і назаўжды зачыніць тэму Другой сусветнай вайны ў нямецкай палітычнай дыскусіі, разумеючы пад гэтым знікнецце з простых немцаў адказнасці за тое, што было ў далёкіх 1939–1945 гадах.

Як бачым, тэма рэпарацый дастаткова таксічная, што прымушае ўзгадаць словы левага польскага прэзідэнта Аляксандра Квасьнеўскага, які ў 2004-м папярэджваў: пытанне рэпарацый здольнае разбурыць аб'яднаную Еўропу.

# Глабальная Вейшнорыя

Алег НОВІКАЎ

**Стварэнне віртуальных дзяржаў накшталт Вейшнорыі — вельмі папулярны ў свеце трэнд, здольны, на думку экспертаў, змяніць звыклыя дэфініцыі паняццяў «дзяржава» і «грамадзянства».**



Фота www.static.charter97.org

Піянерам у гэтай галіне, калі верыць інтэрнэту, можна лічыць Марціна Хармана — уладальніка брытанскага вострава Ландзі. Прыблізна сто гадоў таму яму прыйшла ў галаву думка абвясціць сябе каралём той самай выспы. Праўда, існавала каралеўства нядоўга праз выклік у суд за выраб манетаў, на якіх Марцін выяўляў сябе, і штрафам памерам у 5 фунтаў стэрлінгаў.

Нягледзячы на пакаранне «караля» Ландзі, у яго знайшлося шмат паслядоўнікаў. Больш за тое, на пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя абвяшчэнне віртуальных дзяржаў — або, як іх называюць па-англійску, «micronations» — ператварылася ў сапраўдную моду. Аналізуючы гісторыю з'яўлення падобных фармацый, можна паспрабаваць вылічыць, што штурхае людзей на дзяржаўнае будаўніцтва.

Найбольш папулярны матыў, натуральна, — ідэалагічныя забабоны. Напрыклад, аўтары «Хрысціяніі» (квартала хіпі ў Капенгагене) марылі стварыць зону, дзе пануе дух камуны і братэрства. А вось тыя, хто абвяшчаў у 2004-м у Аўстраліі Каралеўства геяў і лесбіянак, хутчэй за ўсё, жадалі выказаць пратэст супраць дыскрымінацыі сексуальных меншасцяў. Некаторымі рухала жаданне пажартаваць. Напрыклад, пасля таго, як улады Фларыды ў 1982 годзе закрылі на рамонт дарогу, мясцовыя комікі стварылі там незалежную рэспубліку Conch Republic. Першае, што зрабіла новая рэспубліка, — абвясціла вайну ўраду ЗША.

І, натуральна, нельга не ўзгадаць пра асабістыя амбіцыі. Інакш цяжка зразумець учынак аўстралійскага фермера Леанарда Кестлі, які абвясціў сябе герцагам Леапольда Першым. Дарэчы, яго герцагства — самая вялікая неіснуючая дзяржава ў свеце, якая займае тэрыторыю прыкладна ў 600 квадратных кіламетраў.

З часоў Ландзі і стаўленне да такога кшталту праектаў у дзяржаўных структурах змянілася. Цяпер яны амаль не рэагуюць на практыку друку грошай, марак або сувеніраў з сімволікай неіснуючых краінаў, не звяртаюць увагу на гучныя заявы іх каралёў, герцагаў і прэзідэнтаў. Рознага кшталту «Хрысціяніі» разглядаюцца хутчэй як нейкі атракцыён, здольны прыцягнуць турыстаў і папоўніць бюджэт. Хаця мелі месца і канфлікты, асабліва калі «micronations» парушалі правы прыватнай уласнасці.

Абсалютна новую старонку ў руху віртуальных дзяржаваў адкрыў інтэрнэт, дзе пачалі ствараюцца анлайн-дзяржавы. Першым зразумеў перавагі сеціва амерыканец Роберт Бен Мэдзісан, які ў 1979-м яшчэ ва ўзросце 14 гадоў прыдумаў Каралеўства Талоса, і з часам — нават яго мову. Пра існаванне каралеўства доўгі час ведалі выключна родныя і сябры Роберта. Аднак у 1995-м той уцяміў стварыць старонку Каралеўства Талоса ў інтэрнэце. Дзякуючы віртуалізацыі, яго каралеўства атрымала некалькі соцень фанатаў. Як следства, слоўнік мовы, на якой размаўляюць у Каралеўстве Талоса, на цяперашні дзень пашырыўся да 30 тысяч адзінак.

Сёння нават зафіксаваныя першыя войны паміж анлайн-дзяржавамі. У 2009 годзе мела месца вайна паміж Каралеўствам Фінісмунд і Рэспублікай Радэзія. Радэзія прапанавала Фінісмунду дамову, паводле якой усе землі Фінісмунда адыходзілі Радэзіі. Фінісмунд па недаглядзе дамову падпісаў, але потым адмовіўся яе выконваць. У адказ Радэзія арганізавала некалькі хакерскіх нападаў на сайт Фінісмунда. Паколькі Фінісмунд і Радэзія лічаць сябе антарктычнымі дзяржавамі, той канфлікт некаторыя называюць першай у гісторыі вайной у Антарктыдзе.

Аднак значна цікавей тое, што ў межах пашырэння інтэрнэту і глабалізацыі камунікацыі паўстаюць новыя ідэнтычнасці. Людзі ўсё часцей пачынаюць ідэнтыфікаваць сябе з сябрамі нейкай інтэрнэт-супольнасці. Праз гэта такая з'ява, як прыдуманыя дзяржавы, набывае новы фармат. Яны ўсё часцей нагадваюць правобразы нейкай дзяржавы, дзе «грамадзяне» паслядоўна выконваюць свае абавязкі — плацяць грошы на падтрымку праекта, удзельнічаюць у выбарах выканаўчых структур, ствараюць нейкія касы ўзаемнай дапамогі. Прычым робіцца гэта без прымусу. Такі высокі ўзровень адказнасці лёгка зразумець. Грамадзянамі анлайн-дзяржавы становяцца добраахвотна, і таму больш адказна выконваюць грамадзянскія абавязкі.

У сувязі з гэтым узнікае пытанне: ці не будуць з часам віртуальныя дзяржавы патрабаваць афіцыйнага прызнання? Паводле тэорыі, дзяржава як суб'ект міжнароднага права павінна адпавядаць наступным крытэрам: мець сталае насельніцтва, пэўную тэрыторыю, урад, здольнасць уступаць у міжнародныя адносіны. Існуючыя на цяперашні дзень віртуальныя дзяржавы імітуюць, як правіла, толькі некаторыя з гэтых патрабаванняў. Аднак нейкі рух у гэтым накірунку ёсць.

У 2008 годзе адзін брытанскі студэнт, які лічыць сябе імператарам каралеўства Аўстэназія, дамогся праз дэпутата ад сваёй акругі, каб брытанскі МЗС даслаў яму афіцыйны ліст. У тым лісце былі выкладзеныя крытэры, якія павінна выканаць Аўстэназія або іншая дзяржава для таго, каб мець дыпламатычныя адносіны з урадам Яе Вялікасці. Напачатку нашага стагоддзя іншая анлайнавая дзяржава — Фрыдонія — паспрабавала набыць тэрыторыю ў адной з самаабвешчаных дзяржаваў, якія паўсталі на месцы фактычна неіснуючай сёння Самалі. У такім ракурсе дэвірутуалізацыю віртуальных дзяржаў у будучым выключаць нельга. Не дай Божа, але раптам калі-небудзь чарга дойдзе і да Вейшнорыі?

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Святаслаў Вакарчук



Лідар папулярнага ўкраінскага рок-гурта «Океан Эльзи», на думку многіх, адназначна вырашыў балатавацца ў прэзідэнты на выбарах 2019 года. Пра гэта нібыта сведчаць некаторыя апошнія крокі, закліканыя стварыць яму імідж палітыка, якога лічаць «сваім» як на Захадзе, так і на Усходзе краіны (нагадаем, што Вакарчук — ураджэнец Львова).

Менавіта жаданнем стаць сваім у вачах паўднёвага ўсходу краіны медыя тлумачаць удзел Вакарчука ў святкаванні Дня Адэсы 2 верасня, дзе ён нечакана для ўсіх выканаў песню Леаніда Уцёсава. Многія адэсіты віталі гэты выступ, пабачыўшы ў ім спробу зніжэння моўна-культурнага супрацьстаяння. Услед за гэтым Вакарчук рэзка раскрытыкаваў пагром крамы ў Кіеве, уладальнік якой загадаў змыць са сцен установы графіці часоў Майдану.

Не дзіўна, што расійскія медыя заклікаюць рускамоўных украінцаў не верыць у «прымірэнчыя жэсты Вакарчука». «Океан Эльзи» задзейнічаны ў новым праекце атлумлення рускіх Украіны, пішуць у Маскве.

Застаецца дадаць, што механізм пошуку новага лідара Украіны можа пачацца ўжо на гэтым тыдні. На ўік-энд абяцае вярнуцца ва Украіну, насуперак забароне афіцыйнага Кіева, Міхаіл Саакашвілі. Некаторыя лічаць, што з'яўленне Саакашвілі, якога падтрымалі практычна ўсе апазіцыйныя сілы, здольнае справакаваць сапраўднае масавае паўстанне супраць адміністрацыі Парашэнкі.

### Джасцін Трудо

Прэм'ер-міністр Канады, лідар ліберальнай партыі, які пасля абрання лічыўся кумірам канадскай і еўрапейскай публікі, пачаў рэзка губляць у рэйтынгах. Цяпер яго падтрымліваюць толькі 35–40 працэнтаў канадцаў. Усё праз вельмі моцны наплыў мігрантаў.

Усё пачалося, калі Дональд Трамп, стаўшы прэзідэнтам ЗША, загадаў затармазіць працэс надання прытулку нелегалам. У гэты ж час Трудо заявіў, што Канада гатовая адчыніць дзверы для кожнага мігранта, які знаходзіцца ў Злучаных Штатах. Адразу пачаўся рух у бок канадскай мяжы, які на сёння набывае катастрафічныя памеры. Толькі за тры месяцы апошняга лета ў Канаду пераехала каля 11 тысяч мігрантаў.

Нечакана высветлілася, што краіна да такой колькасці ўцекачоў не падрыхтаваная. Шмат нелегалаў вымушаныя жыць ва ўмовах, якія цяжка лічыць нармальнымі. З іншага боку, фінансаванне будаўніцтва новых комплексаў для імігрантаў палохае падаткаплатнікаў, што ілюструе рост недаверу да прэм'ера. Сам жа Трудо не можа даць адваротны ход, паколькі з'яўляецца закладнікам свайго антытрампаўскага вобразу.

### Фларыян Філіпа

Намеснік старшыні французскай партыі «Нацыянальны фронт» справакаваў моцны канфлікт унутры партыі, калі заклікаў да рэбрэндынгу арганізацыі.

На яго думку, партыю трэба тэрмінова перайменаваць у «Патрыёты». Рэформа, як ён лічыць, неабходная, каб канчаткова пазбавіць структуру іміджу праварадыкальнай секты.

Ідэя быццам бы слушная, аднак шмат хто пабачыў у ёй крамольны падтэкст, а менавіта заклік пераабраць партыйнага правадыра. Сапраўды, менавіта прозвішча «Ле Пэн», уладальнік якога стаяў ля вытокаў на той час сапраўды вельмі праварадыкальнай партыі, прымушае людзей дасюль успрымаць НФ як клуб экстрэмістаў. Магчыма таму Марын Ле Пэн засудзіла ініцыятыву, што выклікала новую хвалю ўнутрыпартыйных разборак.

Чым скончыцца спрэчка вакол новай назвы, незразумела, аднак відавочна, што яна не дазволіць «Нацыянальнаму фронту» напоўніцу праявіць сябе на пачатку новага палітычнага сезона, які абяцае быць вельмі гарачым. На днях былі агучаныя новыя рэйтынгі прэзідэнта Эмануэля Макрона, якому зараз даваяраюць толькі 35 працэнтаў французаў (на пачатку лета давер складаў каля 60 працэнтаў). Між тым, 12 верасня ў краіне адбудзецца першая буйная мабілізацыя супраць законапраектаў ураду па лібералізацыі працоўнага рынку.

# Як мы перамаглі і прайгралі пад Оршай

Алесь КІРКЕВІЧ

**У беларускім нацыянальным дыскурсе бітва пад Оршай фігуруе як надзвычай значная падзея, авеяная легендамі. Тут і перамога над 80-тысячным маскоўскім войскам, і спыненне азіяцкай навалы на Еўропу, і г.д.**



Канстанцін Астрожскі і наша артылерыя на панарамным батальным палатне, прысвечаным бітве пад Оршай, невядомага аўтара

Насамрэч, у больш шырокім еўрапейскім кантэксце ў гэтай бітвы было зусім іншае значэнне: найперш геапалітычнае, а не вайсковае. Вайсковай карысці з гэтай перамогі для ВКЛ па-сутнасці не было ніякай. Чаму?

### Забыты ўсходні вектар

Каб гэта зразумець, трэба найперш заглыбіцца ў гісторыю ВКЛ і Масковіі ў XV стагоддзі. У 1449 годзе паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Масквой быў заключаны «вечны мір». Паводле яго, захоўваліся межы і «статус-кво», дасягнутыя яшчэ Вітаўтам. За намі заставалася права браць даніну з вярхоўскіх княстваў, збіраць «ржэўскую даніну» з некаторых падуладных Ноўгараду земляў. У адказ Вільня адмаўлялася ад прэтэнзіяў на Ноўгарад ды Цвер, якія на 1449 год яшчэ захоўвалі незалежнасць. Смаленск быў адназначнай часткай ВКЛ.

Але, паводле законаў палітыкі, калі дынамікі няма, то і «статус-кво» не захаваецца: будзе адно адступленне назад. У выніку, на працягу другой паловы XV стагоддзя ВКЛ займалася пераарыентацыяй на Захад, цалкам забыўшыся на ўсходні вектар.

Найбольш характэрны тут прыклад Казіміра Ягелончыка. Ён заклаў аснову магутнасці дынастыі Ягелонаў: польскі кароль Ян Ольбрахт, вугорскі кароль Уладзіслаў II — гэта акурат ягоныя сыны. А вось усходнімі межамі Казімір цікавіўся значна менш — і вынікі не прымусілі на сябе чакаць.

### Навошта плаціць таму, каго не баішся?

Тым часам Масковія пашырыла свае ўплывы на тэрыторыі, ад якіх фармальна адмовілася ВКЛ. Так, у 1471 годзе, пасля бітвы на рацэ Шалоні, маскавіты брутальна падпарадкавалі Ноўгарад, разбіўшы наўгародскае войска, а ўвесь рэгіён падзяліўшы на кармленні ды раздаўшы маскоўскім баярам. Так тэрыторыя на поўнач ад ВКЛператварылася ў вайсковы ды эканамічны плацдарм для ворага.

У гэтыя ж гады Масковія сфармавала ідэалогію, якая будзе на працягу наступных 500 гадоў апраўдваць любыя прэтэнзіі ды зверствы ў дачыненні да суседзяў: «Масква — трэці Рым». Праваслаўе стала не толькі і не столькі рэлігіяй, колькі геапалітычным курсам, куды вельмі ўдала ўпісалася вяселле маскоўскага князя Івана III з Соф'яй Палеалог, якое і замацавала «пераемнасць» маладой дзяржавы ад 1000-гадовай Візантыі.

Пачынаючы ад 1480-х гадоў ішла неабвешчаная, альбо «гібрыдная», вайна ВКЛ з Масковіяй. Яе таксама называлі «хітрай», «памежнай», «дзіўнай» вайной. Князі, якія плацілі Вялікаму Княству падаткі, разумелі, што Масква больш магутная, таму ў адзін цудоўны момант наўпрост перасталі плаціць Вільні. Сапраўды, навошта плаціць таму, каго не баішся і хто не можа абараніць ад тых, каго баішся?.. ВКЛ зноў спрабавала вярнуць «статус-кво», і ў 1494 годзе заключыла чарговы парадаксальны мір, хоць фармальна ніякай вайны не было.

### Галоўнае — не колькасць войска, а працэс мабілізацыі

Напрыканцы XV стагоддзя непазбежна пачалася новая вайна. Яе апафеозам стала бітва на рацэ Вядрошы, падчас якой маскавіты разбілі войскі Канстанціна Астрожскага. Наступствы білі катастрафічныя: паводле міру 1503 года, ВКЛ страціла каля 25% тэрыторыі. Пры гэтым ключавым вузлом па-ранейшаму заставаўся Смаленск: бо хто валодаў гэтым горадам, той валодаў дарогай углыб ворага — на Маскву або на Вільню. Справа адбіцця Смаленску стала для маскавітаў галоўнай задачай. Ну а далей: Кіеў, Полацк...

Даследчыкі кажуць, што на той момант ВКЛ было мацнейшым за Масковію, бо магло выставіць каля 25 тысяч вершнікаў супраць прыкладна 20 тысяч маскавітаў. Але ўся праблема палягала ў тым, што працэс збору паспалітага рушэння ў Вялікім Княстве быў неймаверна складаным: рашэнне мусіў прыняць Сейм, які марудзіў, шляхта гэтыя рашэнні ігнаравала, санкцыі супраць «адкасіўшых» былі фармальныя.

У Масковіі мабілізацыя была значна больш аўтарытарнай, таму рэальна з іх 20 000 збіралася 16 000, а з нашых 25 000 — добра калі 8 000... Самае цікавае, што калі толькі ішла пагалоска пра Сейм, які мусіў вырашаць вайсковыя пытанні, маскоўскі цар пра гэта даведваўся, абвяшчаў сябе пакрыўджанай асобай, з якой «збіраюцца ваяваць», аператыўна збіраў войскі і пачынаў вайсковыя дзеянні.

### Астрожскі мог дайсці да Масквы, але...

Па сутнасці, менавіта так адбываліся падзеі ў 1514 годзе, калі маскоўскае войска дайшло да Смаленска ды ўзяло яго, пакуль у нас займаліся абмеркаваннямі сітуацыі ды збіралі сілы.

Ёсць меркаванне, што пад Оршай сілы былі фактычна роўныя. Пры гэтым маскоўская конніца была надзвычай лёгкай, у параўнанні з закаванымі ў даспехі ліцвінамі ды палякамі. Таму прамога ўдару маскавіты, апранутыя ў сцёганыя цегеляі, узброеныя коп'ямі ды шаблямі, вытрымаць не маглі. Бітва запомнілася і выкарыстаннем інавацыяў, а менавіта артылерыі, якая ўпершыню ў Еўропе была ўдала скарыстаная ў полі.

Перамога пад Оршай, як раней параза пад Ведрошай, на той час была сапраўды важнай падзеяй, бо перамажанае войска наўпрост спыняла сваё існаванне гады на два. То бок, у краіну, якой не пашчасціла, можна было прыходзіць і рабіць, што хочаш. Тэарэтычна, мабыць, Астрожскі мог як мінімум адбіць Смаленск або нават дайсці да Масквы, але... на вышэйшым узроўні ніхто не ставіў такой задачы. Таму ўсё склалася па-іншаму.

### «Шчыт Еўропы» альбо «Маяк для Усходу»?

Што ж наконт геапалітычных вынікаў? Пасля Оршы Жыгімонт Стары атрымаў сваю галоўную перамогу — прапагандысцкую. Па Еўропе пайшлі лісткі, у якіх ішлося аб перамозе над 80 тысячамі маскавітаў, галоўная роля адводзілася генію Жыгімонта Старога, ён жа пазіцыянаваў сябе як абаронца каталіцтва, то бок «еўрапейскіх каштоўнасцяў» таго часу, палонных маскоўскіх ваяводаў пацягнулі паказваць у Ватыкан... Сёння гэта бачыцца як фантастычная і безаналагавая рэкламная кампанія.

Фактычна, Жыгімонт Стары супрацьпаставіў маскоўскаму наратыву пра «Трэці Рым» сваю формулу: «Шчыт Еўропы». Гучыць добра і нібыта цалкам слушна, але адначасна гэта было фармальным замацаваннем поўнай адмовы ад усходняга палітычнага вектару.

Чаму? Бо шчыт не можа быць цэнтрам, не можа аб'ядноўваць вакол сябе. Гэта зачыненыя дзверы для ўсіх незадаволеных маскоўскай палітыкай за межамі ВКЛ. Адначасна гэта адмова і ад самых сябе, пераўтварэнне ў фарпост Захаду замест маяка для Усходу.

### Звышдзяржава ад Балтыкі да Адрыятыкі

Яшчэ напярэдадні бітвы Масковія арганізавала шырокую кааліцыю супраць ВКЛ, куды ўваходзілі татары, Свяшчэнная Рымская імперыя ды Крыжацкі ордэн. Цікава, што апошняя ўжо тады падкідвалі ідэю цалкам заняць ды падзяліць ВКЛ і Польшчу. Да рэалізацыі гэтай канцэпцыі дайшло адно праз 300 гадоў падчас падзелу Рэчы Паспалітай: гульцы былі ўсё тыя ж — немцы, аўстрыйцы ды расейцы.

Праз год пасля Оршы, у ліпені 1515 года, пад Венай адбываецца з'езд, які замацаваў распад кааліцыі, арганізаванай Масквой. Крыжакі зноў прызналі сябе леннікамі Польшчы. Максіміліян І Габсбург, які любіў дзейнічаць праз дынастычныя шлюбы, выдаў сваю ўнучку за Людовіка, сына Уладзіслава, караля Чэхіі і Вугоршчыны, брата Жыгімонта Старога, а для свайго ўнука ўзяў у жонкі ягоную дачку.

Для Ягелонаў гэта быў неймаверны поспех, у які цяжка было паверыць, бо па выніках яны мелі за сабой Чэхію, Вугоршчыну, Польшчу, ВКЛ, Тэўтонскі ордэн... Атрымлівалася звышдзяржава Ягелонаў ад Балтыкі да Чорнага мора і Адрыятыкі, якая па памерах дараўноўвала да Свяшчэннай Рымскай Імперыі Габсбургаў.

### Канец Ягелонаў

Што было далей? У 1526 годзе Людовік, альбо Лаяш, сын Уладзіслава, загінуў у бітве з туркамі пад Мохачам, Вугоршчыну разарвалі на часткі — нешта адышло туркам, нешта Габсбургам, якія апелявалі да таго, што жонкай нябожчыка была народжаная Габсбург. Агулам разбіральніцтвы ў дынастычнай «санта-барбары» з вугорскай спадчынай цягнуліся ажно да 1570-х гадоў, але Ягелоны і наша дзяржава з гэтага не займелі нічога.

Неўзабаве, страціўшы Чэхію і Вугоршчыну, Ягелоны згаслі і самі. Жыгімонт II Аўгуст быў апошнім з Ягелонаў, пасля яго смерці род перастаў існаваць. На Усходзе ж усё толькі пачыналася, а да ўлады прыйшоў Іван IV, які атрымаў мянушку «Жахлівы».

### Замест эпілогу

І Масковія, і ВКЛ былі ўнікальнымі для свайго часу і рэгіёну дзяржавамі. Масковія, якая фармальна ўсё рабіла пад хрысціянскімі праваслаўнымі штандарамі, фактычна была дзяржавай, арганізаванай па прынцыпах Залатой арды. Жорсткая цэнтралізацыя і брутальнасць у метадах акурат дапамагалі ёй перамагаць.

Некаторыя расійскія гісторыкі ды прапагандысты зараз празрыста намякаюць, маўляў, ім страшэнна пашанцавала ў свой час акумуляваць ардынскую спадчыну, ідэалогію, метады кіравання. Чаму? Інакш гэта была б сітуацыя феадальнай раздробленасці на паўночна-ўсходніх аскепках Кіеўскай Русі, Ноўгарад з часам бы сышоў у Еўропу «пад немцаў», ВКЛ разам з Беларуссю і Украінай еўрапеізавалася б, засталася б адно невялікая тэрыторыя вакол Масквы і Яраслаўля без выхаду да мора, мяжы з Кітаем ды ядзернай бомбы.

ВКЛ было дзяржавай дэмакратычнай, хай і не ў сучасным разуменні гэтага слова. Гэта быў аскепак альбо, хутчэй, нашчадак Кіеўскай Русі, які трымаўся на кансерватыўных правілах, усталяваных яшчэ ў тыя часы, рэагаваў на падзеі, але самастойна не ствараў павесткі дня. І ў бітве геапалітычных калосаў з такімі ўстаноўкамі, на жаль, Вялікае Княства не мела шансаў перамагчы.

Бітва пад Оршай была надзвычайнай падзеяй у вайсковым сэнсе, але стратэгічна нашай дзяржаве яна не дала нічога. Момант знішчэння Вялікага Княства быў наўпрост адцягнуты ў часе, таксама як пазней яго адцягнула смута ў Масковіі на пачатку XVII стагоддзя, але вынік апынуўся немінучым.

Так, Смаленск яшчэ раз вярнулі акурат у 1600-я гады. Але па сутнасці ўжо тады гэта былі не «вернутыя землі», але «акупаваная тэрыторыя», ідэалагічна зачышчаная і далёкая ад «рускіх ідэяў» у старым разуменні гэтага слова, блізкая да Масквы. Гэта быў ужо часова адбіты плацдарм, які раней ці пазней меўся вярнуцца да моцнага ды ідэйна-маналітнага ворага.

Калі перакідваць масток у сучаснасць, а менавіта ў сітуацыю з Украінай, бачым наступнае. Украіна ва ўмовах канфрантацыі з Масквой магла б паспрабаваць закальцаваць на сябе «рускі мір», актуалізаваўшы спадчыну Кіеўскай Русі, замест таго, каб быць «Шчытом Еўропы», якая далёка не заўжды падобны шчыт цэніць ды асэнсоўвае яго значэнне. Бо падобнае ўжо было з намі роўна 500 гадоў таму, а як усё закончылася — мы з вамі ведаем.


Вёска Паніквы. Успенская царква. 1791 г.


Высокае. Руіны сінагогі


Вёска Скокі. Палац Юльяна Нямцэвіча

# Прыбужжа: цудоўны куточак Беларусі

Лявон ЦЕЛЕШ

**Падарожжа — тое, што робіць наша жыццё больш прыгожым і шчаслівым.**

Вось і мы з вядомым падарожнікам, фатографам, этнографам Уладзімірам Цвірко наведалі Прыбужжа — прыгожы край, што раскінуўся ўздоўж ракі Заходні Буг, побач з мяжой з Польшчай, і які ахоплівае тэрыторыю Брэсцкага і Камянецкага раёнаў.

Тэрыторыя Прыбужжа багатая на помнікі архітэктуры. Найперш мы наведалі аддаленыя паўднёвыя вёскі Брэсцкага раёна, такія, як Дубок, Чэрск, Медна, дзе пазнаёміліся са старажытнымі цэрквамі, узрост якіх налічвае 250–300 гадоў. Напрыклад, памежны гарадскі пасёлак Дамачава ўпершыню згадваецца ў XVIII стагоддзі. Прыгажосць яму надаюць магутныя сосны. Некалі тут існавала ўніяцкая царква, на месцы якой у 1905 годзе была пабудавана праваслаўная царква Святога Лукі. Непадалёк ад яе, на ўзгорку, знаходзіцца касцёл Беззаганнага Зачацця Панны Марыі, пабудаваны ў 1854 годзе, а побач з ім — крыж, усталяваны ў памяць паўстання 1863–1864 гадоў пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

У цэнтры вёскі Чарнаўчыцы ўзвышаецца ўнікальны помнік архітэктуры: касцёл Святой Тройцы, пабудаваны ў стылі позняй готыкі і рэнесансу аж у 1583 годзе. Гасцінны служка храма адамкнуў дзверы, правёў нас у касцёл, і нават дазволіў па вітай лесвіцы падняцца на хоры, дзе знаходзіцца арган, каб мы маглі з вышыні ўбачыць маляўнічую прыгажосць храма.

У 1867 годзе касцёл, як і шмат іншых храмаў, забралі пад праваслаўную царкву, а ў 1928 годзе ён быў вернуты каталікам. Некалі прыязджаў у Чарнаўчыцы Уладзімір Караткевіч, каб пабачыць гэты касцёл — шэдэўр старабеларускага дойлідства. Упрыгожвае вёску таксама царква Параскевы Пятніцы, пабудаваная ў 1733 годзе.

Наведалі мы блізкую ад Брэста вёску Скокі, дзе знаходзіцца сядзібна-паркавы ансамбль Нямцэвічаў. Прыгожы палац, узведзены ў 1770 годзе ў стылі барока, — самая старая пабудова на тэрыторыі Брэста і яго ваколіц, якая засталася да нашых дзён. Падчас Першай сусветнай вайны ў палацы змяшчаўся штаб кайзераўскай арміі, а 15 снежня 1917 года ў ім было падпісана ваеннае перамір'е паміж Германіяй і яе саюзнікамі і бальшавіцкай Расіяй. Пасля Другой сусветнай вайны будынак палаца выкарыстоўваўся як школа і піянерскі лагер, а пасля рэстаўрацыі тут пачаў дзейнічаць гісторыка-мемарыяльны музей. Менавіта ў будынку палаца 260 гадоў таму, 6 лютага 1757 года, нарадзіўся польскі пісьменнік, публіцыст і гісторык Юльян Урсын Нямцэвіч, які ў час паўстання 1794 года супраць царскай Расіі быў ад'ютантам і сакратаром Тадэвуша Касцюшкі. Пасля задушэння паўстання Юльян Урсын Нямцэвіч два гады правёў у зняволенні ў Петрапаўлаўскай крэпасці, а пасля вызвалення разам з Касцюшкам выехаў у ЗША, быў асабіста знаёмы з Джорджам Вашынгтонам. Але пасля смерці бацькі ў 1802 годзе ён зноў вярнуўся ў Скокі.

Юльян Нямцэвіч прымаў удзел і ў паўстанні 1830–1831 гадоў, але вызначыўся і як пісьменнік. Ён — аўтар раманаў «Два паны сяцёхі», «Ян з Тэнчына», а ў адной з кніг апісаў Брэст, Гродна, Навагрудак, жыццё беларускіх сялян.

Камянецкі раён, як і Брэсцкі, таксама багаты на архітэктурныя помнікі. Сваёй прыгажосцю і гістарычнымі помнікамі нас прывабіў невялічкі старажытны гарадок Высокае, размешчаны на рацэ Пульве. Адміністрацыя мясцовага сельскагаспадарчага каледжа гасцінна прадставіла нам месца для начлегу ў студэнцкім інтэрнаце.

Горад Высокае вядомы яшчэ з XIV стагоддзя, і да 1939 года насіў назву Высока-Літоўск. У 1494 годзе гораду было даравана Магдэбургскае права і герб. Побач з інтэрнатам, праз вуліцу, узвышаецца прыгожы касцёл, пабудаваны ў стылі барока ў 1603 годзе.

З 1647 года Высока-Літоўск належаў Сапегам, якія ў 1678 годзе заклалі прыгожы замак. У час вайны з Масковіяй замак неаднойчы гарэў і разбураўся, і на сёння ад яго зберагліся толькі ўязныя замкавыя вароты. Непадалёк ад замка Аляксандр Сапега пабудаваў манастыр баніфратаў, які збярогся да нашага часу.


Воўчын. Касцёл — магільны склеп, дзе ў крыпце знаходзіліся парэшткі Станіслава Панятоўскага. 1729 г.


Вёска Воўчын. Царква Святога Мікалая. XVIII ст.


Гарнізонная царква ў Брэсцкай крэпасці


Вёска Такары. Царква Святога Міхаіла Архангела. 1816 г.

Адным з цікавых аб'ектаў, які б мог сёння прываблівацць у Высокім турыстаў, з'яўляецца палац, што быў пабудаваны ў 1816–1820 гадах графіняй Пелагеяй Патоцкай. Гэты цудоўны помнік архітэктуры ў даволі непрыглядным стане некалькі гадоў таму быў прададзены ўласніку. Той агарадзіў палац высокім тынам, з-за якога чуўся брэх вартавых сабак. Давялося здымаць палац здалёк. А чаму б дзяржаве самой ні ўзяць гэты палац пад апеку, адрэстаўраваць яго? На лядовых палацы грошай хапае, а на гістарычныя помнікі няма?

У цэнтры горада ўзвышаецца Крыжаўзвіжанская царква, пабудаваная ў 1869 годзе ў рэтраспектыўна-рускім стылі. У 1888 годзе на службу ў гэты праваслаўны храм прыязджаў з сям'ёй расійскі імператар Аляксандр II.

Некалі ў Высокім жыло шмат яўрэяў і была цагляная сінагога, ад якой сёння засталіся адны руіны. Перад ёй можна ўбачыць помнік, на ім на беларускай, англійскай і яўрэйскай мовах напісана, што тут увосень 1941 года нямецка-фашысцкімі акупантамі былі забітыя 320 яўрэяў, а 2500 чалавек вывезеныя ў нямецкі канцлагер Трэблінка.

На паўднёвы захад ад Высокага знаходзіцца вёска Воўчын. Упершыню яна згадваецца ў XVI стагоддзі. Адным з гаспадароў Воўчына быў князь Казімір Чартарыйскі, дачка якога, Канстанцыя, выйшла замуж за графа Станіслава Панятоўскага, бацьку Станіслава Аўгуста Панятоўскага, будучага апошняга караля Рэчы Паспалітай, вялікага князя ВКЛ. Станіслаў Панятоўскі пабудаваў тут палац і касцёл Тройцы, першы камень якога быў закладзены ў 1729 годзе, а завяршылася будаўніцтва ў 1733-м. У 1732 годзе ў Воўчыне і нарадзіўся Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Памёр апошні кароль у Санкт-Пецярбургу ў 1798-м, а ў 1938 годзе рэшткі Станіслава Аўгуста былі перанесены ў крыпту воўчынскага касцёлу, дзе захоўваліся да 1994-га. Затым яны былі перавезеныя ў Варшаўскі кафедральны касцёл.

Сёння вядзецца рэканструкцыя касцёла — выдатнага, прыгожага помніка архітэктуры. Побач з ім знаходзіцца будынак плябаніі, а непадалёку ўзвышаецца царква Святога Мікалая, пабудаваная ў XVIII стагоддзі. З іншых помнікаў даўніны вёскі можна прыгадаць будынкі сінагогі, гміны, вадзянога млына.

У вёсцы Паніквы мы наведалі і сфатаграфавалі самы заходні на тэрыторыі Беларусі праваслаўны храм Успення, пабудаваны ў 1791 годзе.

У невялічкай вёсцы Такары, якая знаходзіцца побач з дзяржаўнай мяжой, ёсць царква Святога Міхаіла Архангела, пабудаваная ў 1816 годзе. Святаром у ёй служыў Макар Ігнатоўскі, бацька вядомага беларускага вучонага — гісторыка, прафесара, акадэміка, першага прэзідэнта Беларускай акадэміі навук Усевалада Ігнатоўскага, які шмат зрабіў для беларускай навукі. Дзякуючы яму быў адкрыты Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Ён — аўтар шматлікіх прац па гісторыі Беларусі, асаблівае месца сярод якіх займае яго праца «1863 год на Беларусі».

Былы галоўны рэдактар «Новага Часу», гісторык Аляксей Кароль называў гэтую працу «першым у нашай нацыянальнай гістарыяграфіі і грунтоўным навуковым даследаваннем паўстання 1863–1864 гадоў». З цягам часу сталінскія сатрапы залічылі Усевалада Ігнатоўскага ў шэрагі «ворагаў народа». Пачалося цкаванне, выклікі ў АГПУ, допыты. Не вытрымаўшы здзекаў, Усевалад Ігнатоўскі скончыў жыццё самагубствам. Пахавалі яго ўпотай ад усіх, раніцай на Вайсковых могілках Мінска. Не пакінулі ў спакоі і сям'ю вучонага: на 8 гадоў сталінскіх лагераў была асуджана яго жонка, а сыны — Юры і Валянцін — расстраляныя.

Сёння большасць жыхароў Беларусі могуць назваць цікавымі для турызму толькі такія славутасці, як Мірскі замак і Нясвіжскі палац. Вынікі нашых падарожжаў дазваляюць сцвярджаць: беларуская зямля вельмі багатая на гістарычныя помнікі архітэктуры, старажытныя сядзібна-палацавыя комплексы. Яны маглі б прывабіць шматлікіх турыстаў і прыносіць вялікі прыбытак у казну дзяржавы. Але для гэтага не хапае волі і жадання тым, хто сядзіць «наверсе» і абавязаны клапаціцца пра гэта. З цягам часу многія з помнікаў, нікім не дагледжаныя, паступова прыходзяць у заняпад, разбураюцца, што не павінна быць.

# Дзе навучыцца старажытным танцам?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**На пачатку новага вучэбнага года прапануем агляд мінскіх школ, дзе дарослых вучаць народным і гістарычным танцам.**

Для тых, хто хоча займацца з інструктарам і ў добрай кампаніі, у Мінску ёсць шэраг магчымасцей павучыцца танцам розных народаў, а таксама гістарычнай харэаграфіі. Назавём некалькі школ, што вучаць дарослых танчыць «з нуля».







### Танцавальная школа гурта «GUDA»

Праграма навучання: беларускія традыцыйныя танцы — сольныя, у парах, тройках і чацвёрках. Выкладае **Мікола Козенка** (даследчык са шматгадовым вопытам этнаграфічных экспедыцый, аўтар шматлікіх кніг па традыцыйнай харэаграфіі). Навучанне дакладна па этнаграфічных узорах. Праца над тэхнікай і стылем танцу. Ёсць дзіцячыя групы. Заняткі платныя.

**Расклад і адрас заняткаў:** дарослыя — чацвер з 19.00, вул. Машэрава, д. 5 (ст.м. Плошча Перамогі).

**Кантакты:** https://vk.com/club76517089; +375 29 608-25-56 (Вікторыя); v.mikhno@tut.by

### Гурт «Мілавіца» пры Цэнтры дадатковай адукацыі «Ветразь»

**Праграма навучання:** беларускія традыцыйныя танцы. Выкладае **Мікола Козенка.** Ёсць дзіцячыя групы. Праграма не вельмі інтэнсіўная, наведваюць пераважна бацькі, бабулі і нават прабабулі дзяцей, якія займаюцца ў «Мілавіцы». Прыходзіць таксама моладзь, што мае магчымасць вучыцца ад прадстаўнікоў старэйшага пакалення, якое памятае танцы сваіх родных вёсак.

**Расклад і адрас заняткаў:** вул. Чкалава, д. 1/4, к. 26 (2-і паверх). Расклад вызначаецца.

**Кантакты:** +375 29 564-48-30 (Марыя Васільеўна).

### Мінскі клуб шатландскіх танцаў

**Праграма навучання:** шатландскія кейлі (Ceilidh); шатландскія контрдансы (SCD); Highland (сольны шатландскі танец); Ladies Step (сольны жаночы шатландскі танец). Танцавальныя вечарыны.

**Расклад і адрас заняткаў:** SCD (контрдансы): нядзеля з 18.00 да 20.00; National (Highland/Ladies Step): нядзеля з 20.00 да 21.00, вул. Куйбышава, 22 (будынак завода «Гарызонт»), 2-і паверх, малая зала студыі «Dance Cafe».

**Кантакты:** https://vk.com/minsksdclub; msdc@tut.by; +375 29 674-45-68 (Наталля); +375 29 337-17-19 (Павел).

### Танцавальная студыя «Глорыя»

**Праграма навучання:** традыцыйны ірландскі танец. Пры жаданні — удзел у чэмпіянатах, конкурсах і фестывалях па ўсім свеце. Танцавальныя вечарыны. Ёсць дзіцячыя групы.

**Расклад і адрас заняткаў:** група ад 13 гадоў (узрост не абмежаваны) — чацвер 20.30 – 22.00; субота 17.00 – 18.30, вул. Якубоўскага, 52Б (7 хв. ад ст. м. Кунцаўшчына).

**Кантакты:** http://gloria-studio.by; gloria.minsk@gmail.com; +375 29 164-38-74, +375 29 769-75-51 (Яўгенія); +375 29 192-16-55 (Кацярына).

### Школа ірландскага танца «Bassdance»

**Праграма навучання:** традыцыйны ірландскі танец. Канцэртная дзейнасць, удзел у спаборніцтвах. Танцавальны клуб «Bassdance» з'яўляецца ініцыятарам і арганізатарам фестывалю ірландскай культуры «Дзень Святога Патрыка» і фэсту «Фолк-экспрэс», якія штогод праходзяць у Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі. У межах фестываляў — вечарыны для ўдзельнікаў. Кіраўніца клуба — Алена Козіч.

**Расклад і адрас заняткаў:** Старавіленскі тракт, д. 41. Расклад вызначаецца.

**Кантакты:** http://www.bassdanceclub.com; https://vk.com/bassdance

### Школа ірландскага танца «Фенікс»

Праграма навучання: традыцыйны ірландскі танец. Сацыяльныя танцы, кейлі, а таксама ўдзел у чэмпіянатах. Штогадовая вечарына ў дзень Святога Патрыка. Заняткі для дарослых платныя. Ёсць дзіцячыя дармовыя групы для тых, хто мае харэаграфічную падрыхтоўку.

**У Мінску ёсць шэраг магчымасцей павучыцца танцам розных народаў, а таксама гістарычнай харэаграфіі. Назавём некалькі школ, што вучаць дарослых танчыць «з нуля»**

**Расклад і адрас заняткаў:** панядзелак і пятніца 20.00 – 21.00, вул. Уральская, 41, каб. 102.

**Кантакты:** http://www.irishdance.by, +375 29 693-79-46 (Юлія).

### Гурток «Гістарычныя танцы» ў Палацы дзяцей і моладзі

**Праграма навучання:** ад Сярэднявечча да пач. XX ст. Танцы Сярэднявечча — бранлі, паваны, алеманды, гальярды, цыкл брэтонскіх танцаў. Пазнейшая эпоха — контрдансы, кадрылі, вальсы. Шатландскія танцы. Выкладае Ірына Салавей. Заняткі дармовыя. Прымаецца моладзь ад 12 да 31 года.

**Расклад і адрас заняткаў:** пятніца 19.00 – 22.00, каб. 131; нядзеля 12.00 – 15.00, каб. 518, Старавіленскі тракт, д. 41.

**Кантакты:** +375 29 764-82-98 (Ірына Міхайлаўна)

### Танцавальная школа гурта «Гістрыён»

**Праграма навучання:** гістарычныя танцы розных часоў. Сярэднявечча, Адраджэнне, XIX і XX ст., танцы розных народаў — беларускія, латышскія, скандынаўскія, брэтонскія і інш. Выкладае Марыя Сцяпанава. Адкрытыя вечарыны (напрыклад, для навучэнцаў 2017 г. быў зладжаны выпускны на вольным паветры). Заняткі дармовыя.

**Расклад і адрас заняткаў:** ЦВР МАЯК, зав. Палявы 2а, каб. 103. Расклад удакладняецца.

**Кантакты:** https://vk.com/gistrion_bel; +375 44 761-34-04 (Марыя).

### Студыя танцу «BALANCÉ»

**Праграма навучання:** сярод накірункаў студыі — танцы эпохі ампір (пач. XIX ст.) і мадэрн (кан. XIX – пач. XX ст.). Удзел у балах. Заняткі платныя. Выкладае Ірына Баслык.

**Расклад і адрас заняткаў:** пр-т Машэрава, 25, зала 401. Расклад па цікавым вам накірунку ўдакладняйце.

**Кантакты:** https://vk.com/balance_dance; +375 29 778-05-70 (Ірына)

### Студыя гістарычнага танцу «La Camargo»

**Праграма навучання:** танцы кан. XVII – пач. XX ст.: ад урачыстага менуэта да расслабленага рэгтайму. Асноўны напрамак студыі — танцы XIX стагоддзя: кадрылі, полькі, мазуркі і, вядома ж, вальсы. Унікальная для Беларусі група па танцах канца XVII – XVIII ст. Імкненне перадаць характар і атмасферу эпохі, рэканструкцыя гістарычных касцюмаў, вывучэнне правіл бальнага этыкету. Арганізацыя балаў (бліжэйшы — 30 верасня ў Лошыцкай сядзібе).

**Расклад і адрас заняткаў:** зав. Палявы, 2А. Расклад удакладняецца.

**Кантакты:** https://vk.com/lacamargo_dance; +375 33 615-80-48 (Маргарыта).

### Этнастудыя «Кетры»

**Праграма навучання:** эклектыка руху з розных танцавальных накірункаў, імправізацыя ў этнічным стылі, танцы з агнём. Выкарыстанне шаманскіх практык і трайблу. А таксама акторскае майстэрства, музыцыраванне на этнічных інструментах, напісанне тэкстаў песень. Самастойная выпрацоўка сцэнічных вобразаў. Супольныя святы, паходы. Заняткі платныя. Выкладае Марыя Юрына.

**Расклад і адрас заняткаў:** вул. Арлоўская, 24. Расклад удакладняецца.

**Кантакты:** https://vk.com/clubethnoketri; +375 29 564-17-35 (Марыя)

**Фота аўтара**



Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №848

Падпісана да друку 08.09.2017. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.